● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

11 чэрвеня 1998 г. чацвер, № 120 (23471)



# ЗВЯЗДА

## «Мы не іншаземцы адзін аднаму»

***Так заявіў расійскі прэм'ер Сяргей Кірыенка пасля пасяджэння Выканкама Саюза Беларусі і Расіі 10 чэрвеня ў Мінску. Аляксандр Лукашэнка горача падтрымаў яго***

Пасяджэнне Выканкама Саюза Беларусі і Расіі было вельмі насычаным, больш як 25 пытанняў было ўключана ў парадак дня. Можа гэтак адбылося таму, што само пасяджэнне гэтае доўгі час адкладвалася з-за перамен у расійскім урадзе. Важнейшымі пытаннямі былі эканамічныя: аб фарміраванні адзінай мытнай прасторы, аб сумесных праграмах у галіне мікраэлектронікі, вытворчасці тэлевізараў, аптовых харчовых рынкаў, падтрымцы малога бізнесу і інш. Акрамя таго разглядаліся і пытанні аб сумесным пераадоленні наступстваў Чарнобыля, аб сімволіцы Саюза, аб падрыхтоўцы беларускіх вайскоўцаў у расійскіх вучылішчах, аб стварэнні ў Мінску філіяла Маскоўскага сацыяльнага ўніверсітэта і нямала іншых.

Пачынаючы пасяджэнне, прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг падкрэсліў «асаблівую важнасць аб'яднаўчых працэсаў паміж Расіяй і Беларуссю» і адзначыў, што Выканкам працаваў актыўна і пасяхова. Яго расійскі калега Сяргей Кірыенка выказаў задавальненне тэмпамі інтэграцыі дзвюх краін і адназначна падкрэсліў неабходнасць адбудовы ў першую чаргу трывалага эканамічнага фундамента для расійска-беларускага саюза. І гэты працэс, на яго думку, ідзе паспяхова: рост тавараабароту паміж Расіяй і Беларуссю за першы квартал гэтага года склаў 20 працэнтаў, на 80 працэнтаў тавараабарот вырас за два апошнія гады.

Па ўсіх пытаннях парадку дня быў дасягнуты прагрэс, апрача распрацоўкі аб стварэнні расійска-беларускай тэлерадыёвяшчальнай кампаніі. На думку расіян, дакументы па ёй пакуль што «сырыя». Праўда, Іван Пашкевіч, які з беларускага боку курыруе гэты праект, палічыў, што расійскі бок тут дапусціў пэўнае прамаруджванне ў вырашэнні гэтага пытання. У выніку па гэтай праблеме была сфарміравана дадатковая рабочая група, якая ў месячны тэрмін прапрацуе крыніцы фінансавання і прынцыпы дзейнасці новай тэлерадыёкампаніі. Як лічыць С. Кірыенка, пытанне гэтае можна будзе разгледзець 12 жніўня на чарговым пасяджэнні Выканкама.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**



## ІГРАЙ, МУЗЫКАНТ — МЫ БУДЗЕМ ВЕРЫЦЬ...

Калі слухаеш, як Мар'ян Антонавіч перабірае кнопачкі свайго дагледжанага старога баяна, — міжволі думаецца: у кожнай яго мелодыі жывуць гукі мінулага. Яны зноў чаруюць нас і зноў сцвярджаюць, што падуладныя толькі старому, толькі сапраўднаму музыканту.

Мар'ян Антонавіч Скрамблевіч жыве ў Гродне, працуе загадчыкам аднаго з рабочых клубаў, кіруе там самадзейнасцю. У вольны час ён з захапленнем стварае разнастайныя драўляныя музычныя інструменты, якія паходзяць ад звычайнай сціплай дудкі. Яго інструменты распрацаваныя і выкана违 на ўзроўні лепшых сучасных беларускіх майстроў.

Я пазнаёміўся з Мар'янам Антонавічам у час выставы твораў народных умельцаў. Стары музыка заслаў садовую лаўку ручніком, акуратна паклаў зверху свае дудкі і жалейкі — няхай людзі гледзяць — а сам сеў побач і расцягнуў мяхі баяна.

Ён іграў людзям песні сваёй маладосці, і тыя верылі, што гукі музыкі не адлятаюць у нябыт мінулых гадоў. Яны нячутна блукаюць над намі, каб урэшце зноў ачуцца ці то ў старым баяне, ці ў новенькай бліскучай дудачцы.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**



***Парламенцкі дзённік***

## БУДУЦЬ ЯШЧЭ АДНЫ СЛУХАННІ — ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА

*Пленарныя пасяджэнні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу на гэтым тыдні ўжо традыцыйна пачаліся з уключэння дадатковых пытанняў у парадак дня чацвёртай сесіі. Як ні парадаксальна, нягледзячы на тое, што яна заканчваецца 30 чэрвеня, дэпутаты не збіраюцца зніжаць тэмпы і па-ранейшаму выступаюць з новымі ініцыятывамі, пашыраючы планы заканадаўчай дзейнасці.*

Такую тэндэнцыю можна было б вітаць, каб не той факт, што адначасова з гэтым замарудзіўся працэс разгляду ўжо запланаваных законапраектаў, у выніку чаго парламент пачаў адставаць ад раней зацверджанага графіка. У такіх умовах можа так стацца, што ў апошнія дні сесіі галасаванне па праектах будзе нагадваць імклівы заводскі канвеер...

Так, непасрэдна заканатворчая праца 10 чэрвеня пачалася ў Палаце прадстаўнікоў з абмеркавання дакументаў, якія парламент не паспеў разгледзець на мінулым тыдні. У прыватнасці, была прынята пастанова ў адпаведнасці з Дэкрэтам прэзідэнта № 18, які прадугледжвае абавязковае страхаванне будынкаў, што належаць грамадзянам. Да гэтага пытання дэпутаты звярталіся 4 чэрвеня, але прыняць канчатковае рашэнне тады не хапіла часу. У другім чытанні былі адобраны папраўкі ў Закон «Аб сацыяльным забеспячэнні». Яны датычацца павелічэння выплат з нагоды смерці карміцеля, павелічэння пенсійных надбавак донарам з 10 да 40 працэнтаў ад мінімальнага

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

***Стыхія***

## ДЗЕ СОНЦА БЯДА, А ДЗЕ ДОЖДЖ ДЫ ВЕЦЕР

*Пакутуючы ад вялікай спякоты на працягу ўсяго дня 9 чэрвеня, бліжэй да вечара жыхары Крупскага і Нясвіжскага раёнаў, напэўна, пашкадавалі аб сваёй мары пра ветрык і жыватворную вільгаць.*

У выніку моцнага ветру, які раптам узняўся, і паўтарагадзінных ападкаў (з 17.00 да 18.30) у Крупскім раёне былі разбураны дахі жылых і вытворчых памяшканняў. У населеных пунктах Ротынь, Асінаўка, Ляды пашкоджаны 24 жылыя дамы, 7 гаспадарчых пабудоў, 8 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў грамадзян. На шчасце, абышлося без ахвяр. З 19 гадзін у раёне пачала працаваць камісія па надзвычайных сітуацыях Крупскага райвыканкама і штаб Грамадзянскай абароны, якія ўдакладняюць суму ўрону. Насельніцтву аказваецца дапамога, сіламі РАУС узмоцнена ахова грамадскага парадку.

У Нясвіжскім раёне ў гэты ж дзень, але ўжо ў 20.30 вечара, падчас навальніцы было разбурана сенасховішча ў калгасе «Рассвет». У выніку загінуў адзін чалавек, яшчэ адзін быў дастаўлены ў бальніцу з чэрапна-мазгавой траўмай. Як стала вядома, яны абодва хаваліся ад ветру і дажджу якраз у памяшканні сенасховішча.

На шчасце, больш ніякіх здарэнняў на тэрыторыі вобласці не адбылося, хаця моцны дождж прайшоў, напрыклад, у Лагойску.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## У НЯДЗЕЛЮ СПЯКОТУ ЗМЕНІЦЬ ПРАХАЛОДА

Ужо другі тыдзень бязлітаснае сонца «распякае» нашу краіну. Па меркаванню сіноптыкаў, такая трапічная спякота прыляцела да нас разам з паўднёвым ветрам, які прынёс яе з Міжземнага і Чорнага мораў. Але ўжо з 13 чэрвеня ў бок Беларусі паверне паветраная маса з паўночнага захаду, і ў заходніх раёнах рэспублікі спякота пачне адступаць і тэмпература знізіцца да 20 градусаў. У хуткім часе гэты ветрык прынясе ў Беларусь надвор'е, якое сёння ўсталявалася над цэнтральнай часткай Заходняй Еўропы. Так, сёння ў Германіі і Даніі стаіць цёплае надвор'е: (19—24 градусы) і ідзе дождж. Па прагнозах сіноптыкаў, прахалода ў нашай краіне працягнецца толькі да 16 чэрвеня, потым, хутчэй за ўсё, зноў пачне «качагарыць» сонца...

Як будзе паводзіць сябе надвор'е ў другой палове чэрвеня, пакуль невядома. Але, як сцвярджаюць сіноптыкі, такая спякота ўсталёўваецца ў нашай краіне раз у 20 гадоў. Як паведамілі падраздзяленні ў Гідрамецэнтры, самая высокая тэмпература ў Беларусі ў чэрвені была: у 1885 годзе — 35,5 градуса ў Пінску, 1901 — 34,3 градуса ў Барысаве і ў 1963 годзе — каля 35 градусаў амаль на ўсёй тэрыторыі краіны. Быў у першым месяцы лета і выключны выпадак, калі 6 чэрвеня 1962 года ў Мінску выпаў снег, які пратрымаўся дзве з паловай гадзіны. Будзем спадзявацца, што сёлета нам на галовы снег не выпадзе.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## КАЛІ СПЯКОТА НЕ СПАДЗЕ, У ЛЕС НЕ ПУСЦЯЦЬ

*Калі надвор'е істотна не зменіцца да канца тыдня, магчыма, з наступнага панядзелка рашэннем Мінскага аблвыканкама будзе забаронена на пэўны тэрмін наведванне лясоў вобласці насельніцтвам і ўезд у іх транспарту, паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Мінскім вытворчым лесагаспадарчым аб'яднанні.*

Пакуль абстаноўка ў лясах не выклікае вялікіх апасенняў, бо травяное покрыва яшчэ зялёнае, але, як перадаюць дырэктары лясгасаў, калі такое надвор'е пратрымаецца яшчэ 3-4 дні запар, яно ператворыцца ў сухую траву, і сітуацыя можа стаць напружанай. Зараз з узнікшымі пажарамі ў лясгасах спраўляюцца сваімі сіламі, балазе, іх няшмат: апошнім часам было ўсяго 6 пажараў на плошчы 18 сотак. Сітуацыя лічыцца небяспечнай, калі плошча пажараў дасягае 10 гектараў.

Калі будзе ўведзена забарона на наведванне лясоў, парушальнікаў чакае адміністрацыйнае пакаранне на суму ад аднаго да трох мінімальных заробкаў. Кантраляваць выкананне забароны будуць органы аховы прыроды, міліцыі, ДАІ. Па чутках, ужо ў чацвер надвор'е можа крыху змяніцца, аднак ніхто не рызыкуе даць дакладны прагноз. Як вядома, у апошнія дні сіноптыкі абяцалі кароткачасовыя дажджы і навальніцы на большай частцы вобласці, аднак на самай справе яны прайшлі літаральна ў некалькіх месцах Міншчыны.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## МАЛАНКА ЎДАРЫЛА Ў ГАСПАДАРЧЫЯ ПАБУДОВЫ

*Пасля моцнай спякоты ночку 9 чэрвеня над заходнімі рэгіёнамі рэспублікі навіслі навальнічныя хмары. Яны прынеслі не толькі доўгачаканых, хоць і кароткачасовых дажджы — сям-там нарабіла бяды маланка.*

У пасёлку Астрамечава Брэсцкага раёна яна ўдарыла ў сельгаспабудовы — упрытык размешчаныя хлявы і кладоўкі мясцовых жыхароў. На шчасце, абышлося без ахвяр і нават удалося выратаваць усю жывёлу. Усяго пацярпелі 16 пабудоў вяскоўцаў. Чатыры пажарныя машыны з навакольных вёсак і адна з абласнога цэнтра патушылі пажар. У гэту ж ноч у пасёлку перапынілася падача электраэнергіі. Аварыйныя брыгады электрыкаў ужо раніцай змаглі даць электрычнасць на комплексы, мехдвары і ў дамы вяскоўцаў.

**Іван КУКСА. БЕЛТА.**

## Толькі факт

Штогод у рэспубліцы прыкладна 500 маці адмаўляюцца ад сваіх нованароджаных дзяцей, 8 тысяч нараджаюць па-за шлюбам.

Цяжкія злачынствы складаюць 49 працэнтаў ад агульнай колькасці злачынстваў, учыненых у студзені—красавіку ў рэспубліцы.

Сёння ў Беларусі ў населеных пунктах з узроўнем радыеактыўнага забруджвання 15 Кі/кв. км і вышэй пражываюць больш як 6 тысяч дзяцей і падлеткаў, у зоне 5—15 — больш як 75 тысяч, у раёнах з узроўнем радыяцыі 1—5 Км/кв. км — 340 тысяч дзяцей.

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 10 ЧЭРВЕНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 48000 | 49000 | 26000 | 27700 | 7400 | 7900 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 48500 | 49500 | 27500 | 27950 | 7900 | 7980 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 49000 | 49500 | 27400 | 27800 | 7800 | 7900 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 36260.00 | | 20294.40 | | 5840.00 | | Курс на 11.06.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.1720 | | 3.4649 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрознівацца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адлаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс (міжбанкаўскі рынак) | 67000 | 67998 | 37548 | 38117 | 10803 | 10967 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс (прыблізна) | 59000 | 59500 | 33000 | 33500 | 9300 | 9800 | |

***Працяг тэмы***

## Плаціць давядзецца ўсё ж у СКВ

*Учора «Звязда» расказала сваім чытачам пра новыя правілы пры афармленні мытных дакументаў на аўтамабілі, якія купляюцца нашымі грамадзянамі за мяжой. Выказвалася меркаванне, што адпаведныя плацяжы будуць праводзіцца ў СКВ.*

Як паведаміў рэдакцыі ўчора ўвечары намеснік старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі Уладзімір Гошын, гэтыя меркаванні мелі пад сабою падставу.

«У выкананне Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 чэрвеня 1998 г. «Аб некаторых пытаннях падаткаабкладання і плацяжоў у бюджэт Рэспублікі Беларусь у 1998 годзе» Дзяржаўны мытны камітэт краіны выдаў загад № 203 ад 9 чэрвеня, зарэгістраваны ў Мінюсце. У загадзе, у прыватнасці, устаноўлена, што мытныя плацяжы за ўвезеныя фізічнымі асобамі на тэрыторыю краіны транспартныя сродкі, пачынаючы з 6 чэрвеня гэтага года, уплачваюцца ў свабодна канверсуйнай валюце альбо расійскіх рублях. Мытныя плацяжы за транспартныя сродкі, што ўвезены на тэрыторыю Беларусі да 6 чэрвеня, ажыццяўляюцца па пажаданню плацельшчыка -- у беларускіх рублях альбо ў СКВ.»

***Пра іншыя змяненні ў парадку мытнага афармлення аўтамабіляў «Звязда» раскажа ў наступным нумары.***

## А.ЛУКАШЭНКА І С.КІРЫЕНКА АБМЕРКАВАЛІ ПЫТАННІ ДАЛЕЙШАГА ЎЗАЕМАДЗЕЯННЯ ДЗВЮХ КРАІН

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыняў старшыню расійскага ўрада Сяргея Кірыенку. Сустрэча адбылася 10 чэрвеня ў рабочай рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы.

Як паведамлялася ўжо, першы візіт Сяргея Кірыенкі ў нашу краіну пачаўся з наведвання Брэста і азнаямлення з новым мытным тэрміналам кантрольна-прапускнога пункта «Казловічы». Кіраўнік расійскага ўрада выказаў задавальненне цяперашняй сітуацыяй, якая там склалася, і выказаў надзею, што гэты першы крок на шляху добраўпарадкавання заходняй граніцы знойдзе свой працяг у рамках рэалізацыі распрацаванай у Беларусі канцэпцыі перспектыўнага развіцця прыгранічнай інфраструктуры.

У ходзе перагавораў Аляксандр Лукашэнка расказаў Сяргею Кірыенку аб эканамічным і палітычным становішчы ў краіне. Удзельнікі сустрэчы абмеркавалі пытанні далейшага ўзаемадзеяння дзвюх краін і шэраг іншых праблем.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## СЯРГЕЙ КІРЫЕНКА ПРЫЕХАЎ У БЕЛАРУСЬ ШУКАЦЬ ШЛЯХІ ЭКАНАМІЧНАГА НАПАЎНЕННЯ САЮЗА ДЗВЮХ КРАІН

Галоўная мэта майго рабочага візіту — эканамічнае напаўненне Саюза Беларусі і Расіі. Аб гэтым заявіў журналістам Старшыня Урада Расійскай Федэрацыі Сяргей Кірыенка, які прыбыў у Брэст вечарам 9 чэрвеня. Ён таксама падкрэсліў, што менавіта пытанні паглыблення ўзаемавыгаднага эканамічнага супрацоўніцтва дзвюх краін будуць у цэнтры ўвагі і на чарговым пасяджэнні Выканаўчага камітэта Саюза, і ў час перагавораў з беларускім прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам, які, дарэчы, сустракаў свайго расійскага калегу ў Брэсцкім аэрапорце.

Двухдзённую паездку ў нашу краіну Сяргей Кірыенка пачаў з наведвання мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой». Навальнічны лівень, які прайшоў перад гэтым і ледзь не сарваў пасадку самалёта з расійскай дэлегацыяй у Брэсцкім аэрапорце, асвяжыў вячэрняе паветра пасля дзённай гарачыні. Гэта, як і тое, што Сяргей Кірыенка ўпершыню прыбыў у легендарную цытадэль, садзейнічала грунтоўнаму знаёмству з мемарыялам, які з'яўляецца агульным помнікам вялікаму подзвігу ўсіх народаў былога СССР.

Да Вечнага агню крэпасці кіраўнік расійскага ўрада ўсклаў вянок і хвілінай маўчання ўшанаваў памяць герояў, якія загінулі ў гады мінулай вайны. Дарэчы, у самой цытадэлі цяпер відаць сляды праводзімай рэканструкцыі. Крыху больш як год таму кіраўнікі дзяржаў СНД дагаварыліся сумесна фінансаваць тут рэстаўрацыйныя работы. На працягу трох гадоў на гэтыя мэты яны павінны выдзеліць увогуле 2 мільёны долараў. Але пакуль што толькі Расія, Беларусь і часткова Малдова выконваюць узятыя абавязацельствы. Менавіта дзякуючы іх грашам у крэпасці адрамантаваны штык-абеліск, пабудавана новая кацельня, вядзецца замена пліткі на пляцоўцы ля Вечнага агню.

Ад'язджаючы з мемарыяла, Сяргей Кірыенка зрабіў запіс у кнізе ганаровых гасцей. «Вялікі подзвіг абаронцаў Брэсцкай крэпасці — гэта наша агульная гордасць і слава, — напісаў ён. — Вечная памяць героям, якія з'яўляюцца прыкладам для новых пакаленняў».

Раніцай 10 чэрвеня Старшыня ўрада Расіі пачаў свой рабочы дзень з наведвання грузавога пагранічнага пераходу «Казловічы» і новага мытнага тэрмінала, які толькі што ўступіў у строй і гаспадаром якога з'яўляецца дзяржаўнае падпрыемства «Брэстгрузаўтасервіс».

Цікавасць да сітуацыі на заходняй граніцы Саюза дзвюх краін у расіян не выпадковая. Як было адзначана ў час гутаркі на пагранпераходзе, праз гэты пункт пропуску толькі з Захаду ў Расію ідзе да 80 працэнтаў афармляемых грузаў. Беларускія і расійскія кіраўнікі пагранічных і мытных службаў, а яны таксама ўдзельнічалі ў размове, звярнулі ўвагу на шэраг праблем, якія неабходна сумесна вырашаць для больш эфектыўнай работы. У прыватнасці, пакуль ёсць немалыя адрозненні ў мытных заканадаўчых дакументах. Наспела неабходнасць у распрацоўцы і прыняцці сумеснай праграмы па развіццю пагранічнай інфраструктуры, прычым не толькі на граніцы з Польшчай, але і з прыбалтыйскімі краінамі і Украінай, у стварэнні адзінай інфармацыйнай прасторы і камп'ютэрызацыі ўсяго працэсу афармлення грузаў. Вялікія надзеі ў гэтым плане ўскладаюцца на адзіны Мытны кодэкс дзвюх краін, які будзе прыняты ў самы бліжэйшы час.

А адно з самых вострых пытанняў апошняга часу на пагранпераходзе «Казловічы» — праблему велізарных чэргаў — дало магчымасць вырашыць адкрыццё новага мытнага тэрмінала. Ён разлічаны на афармленне дзвюх тысяч грузавікоў, што прыбываюць з польскага боку. Акрамя таго, у чым змог пераканацца кіраўнік расійскага ўрада, тут створаны цэлы комплекс паслуг еўрапейскага ўзроўню. Але паколькі паток міжнароднага аўтатранспарту кожны год павялічваецца, то, на думку беларускага боку, яшчэ адзін новы тэрмінал на ўезд і выезд грузавога транспарту ў бліжэйшы час павінен быць пабудаваны непасрэдна каля граніцы. Долевы ўдзел у яго фінансаванні цалкам можа прыняць і расійскі бок.

У невялікім інтэрв'ю журналістам на пагранпераходзе Сяргей Кірыенка адзначыў, што тут нямала ўжо зроблена для нармальнай работы. Рэканструкцыя пагранпераходу, новыя тэрміналы, дадатковыя меры па стварэнню кантрольна-прапускных пунктаў на граніцы з прыбалтыйскімі дзяржавамі і Украінай ужо даюць свой станоўчы эфект. Хоць, лічыць ён, трэба яшчэ нямала зрабіць у бліжэйшай будучыні. Сяргей Кірыенка прывёў такі прыклад. Нярэдка тут, на мытным пункце, гаспадар грузу дэкларуе яго коштам у 10 мільёнаў долараў, а калі пачынае растаможваць груз у Маскве, то сума змяншаецца да аднаго мільёна долараў. Гэта магчыма толькі таму, што пакуль няма аператыўнай інфармацыйнай сістэмы, якая дала б магчымасць імгненна праверыць увесь ланцужок афармлення дакументаў. Няцяжка падлічыць страты бюджэту ад такіх махінацый. Аналагічныя праблемы ўзнікаюць і з прадукцыяй, якая вывозіцца. Вырашаць гэту задачу, а яна патрабуе тэхналагічных, інфармацыйных і арганізацыйных падыходаў, неабходна сумеснымі намаганнямі. Таму, у ліку іншых, прыгранічныя праблемы будуць абмяркоўвацца і на пасяджэнні Выканкама Саюза Беларусі і Расіі.

Пасля наведвання аб'ектаў прыгранічнай інфраструктуры кіраўнік расійскага ўрада адбыў у Мінск. У паездцы па Брэстчыне яго суправаджалі прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг, старшыня Брэсцкага аблвыканкама Уладзімір Заламай, кіраўнікі шэрагу міністэрстваў і ведамстваў дзвюх краін.

**Іван КУКСА, БЕЛТА.**

## ПРЭЗІДЭНТ ПРАДОЎЖЫЎ ТЭРМІН ВЫЕЗДУ ДЫПЛАМАТЫЧНЫХ МІСІЙ З КОМПЛЕКСУ «ДРАЗДЫ» ЯШЧЭ НА ТЫДЗЕНЬ

Сітуацыя, што склалася вакол комплексу «Дразды», абмяркоўвалася 9 чэрвеня ў час сустрэчы міністра замежных спраў Беларусі Івана Антановіча з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Злучаных Штатаў Амерыкі ў нашай рэспубліцы Дэніэлам Спекхардам.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе беларускага МЗС, у ходзе праведзенай гутаркі кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Беларусі са шкадаваннем пацвердзіў вывады нядаўна праведзенай у «Драздах» санітарна-тэхнічнай экспертызы, згодна з якімі далейшая эксплуатацыя комплексу без правядзення капітальнага рамонту немагчыма. Міністр таксама праінфармаваў амерыканскага пасла аб сваёй гутарцы з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам. Як паведаміў Іван Антановіч, кіраўнік дзяржавы выказаў заклапочанасць у сувязі з узнікшай сітуацыяй і распарадзіўся прадоўжыць на тыдзень тэрмін для пошуку аптымальных варыянтаў пераезду дыпламатычных місій, якія цяпер знаходзяцца ў «Драздах». Гэта рашэнне было прынята прэзідэнтам нягледзячы на ўжо зацверджаны графік работ па капітальнай рэканструкцыі комплексу і значныя страты фірмы-падрадчыка, звязаныя з вымушаным прастоем.

Адпаведным гаспадарчым службам даручана аказаць максімальную дапамогу кіраўнікам названых дыпламатычных місій пры падборы новых месцаў размяшчэння іх рэзідэнцый.

**Вадзім МІЛІЦЫН, БЕЛТА.**

## Пастановы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

### АБ ВЫБРАННІ СТАРШЫНІ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА МІЖНАРОДНЫХ СПРАВАХ І СУВЯЗЯХ З СНД

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць старшынёй Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і сувязях з СНД дэпутата Козыра Аляксандра Віктаравіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**

3 чэрвеня 1998 г., г. Мінск. № 610-П/IV

### АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ ПАСТАЯННАЙ КАМІССІІ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА АГРАРНЫХ ПЫТАННЯХ

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі па аграрных пытаннях дэпутата Рымарчыка Івана Сяргеевіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**

3 чэрвеня 1998 г., г. Мінск. № 611-П/IV

## «ГЭТА СПРОБА НАДАЦЬ ТЭХНІЧНАМУ ПЫТАННЮ ПАЛІТЫЧНУЮ АФАРБОЎКУ»

*Інтэрв'ю міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь І.І.Антановіча Беларускаму тэлеграфнаму агенцтву аб сітуацыі, якая склалася вакол комплексу «Дразды»*

**— Іван Іванавіч, у панядзелак на прэс-канферэнцыі з вуснаў пасла ЗША гучалі ў адрас Беларусі абвінавачанні. Якая сітуацыя на самай справе?**

— Я таксама глядзеў, і слухаў, і чытаў справаздачы з гэтай прэс-канферэнцыі. Пасол шкадаваў аб тым, што яму прыйдзецца з'язджаць з дачнага комплексу «Дразды» .

І мы шкадавалі наконт гэтага. Калі быць шчырым, я не хацеў умешвацца ў гэту гісторыю, таму што гэта — пытанні быту дыпламатаў. МЗС бытам не займаецца. Але шэраг паслоў, у прыватнасці, з еўрапейскіх краін, папрасілі мяне зрабіць дружалюбны жэст. І хоць не скажаш, што з гэтых краін у апошнія два гады Беларусь атрымлівала шмат дружалюбных жэстаў, я ўзяўся за гэта пытанне, каб даведацца, што на самай справе адбываецца.

Увогуле, як звычайна вырашаюцца справы з бытам дыпламатаў? Іх жыццё звязана з пастаяннымі пераездамі. Спачатку жывуць у гасцініцах, доўга шукаюць, выбіраюць, потым наймаюць кватэру. У каго больш грошай, тыя выбіраюць кватэры лепшыя, у каго менш, у таго яна горшая.

Мы ў 92-93 гадах аказаліся звышгасціннымі. Эвакуіравалі ўрадавыя загарадныя рэзідэнцыі начыста. Пасялілі там дыпламатаў. Умовы добрыя, побач з горадам. Потым пусцілі, як звычайна, справу на самацёк. Туды падсяляліся ўсё новыя дыпламаты. І шчыльнасць засялення «Драздоў» стала ў некалькі разоў большая за тую, якая была да таго.

Гэта выклікала сур'ёзныя санітарныя праблемы. Гэтыя будынкі — аб гэтым ужо гаварылася — будаваліся ў 45—48-м гадах. Адсутнічае гарадская каналізацыя. Сцёкавыя воды пры ўзмоцненай рабоце пасёлка пачалі збірацца. Небяспекі няма, што ўпадзе дом, як у Маскве. Але што паплывуць «Дразды» ва ўласных сцёкавых водах, такая небяспека ёсць.

Калі мне далі яшчэ цэлы шэраг такіх ацэнак санітарна-экалагічнага стану, я папрасіў адпаведныя службы паглядзець яшчэ раз. Экспертыза поўнасцю пацвердзіла гэтыя даныя.

Мы не можам падвяргаць дыпламатаў небяспецы. Тым больш, што тады мы засялілі іх часова. Пабудаваны на Лодачнай дом - кватэры, у якіх мы, беларусы, не скора будзем жыць, па 200, 300, 400 квадратных метраў — для дыпламатаў, з поўным улікам дыпламатычнай спецыфікі. Тым, хто любіць жыць за горадам, ёсць магчымасць прадаставіць загарадныя рэзідэнцыі. У прыватнасці, ёсць у нас былы саўмінаўскі комплекс. Ёсць абяцанне гаспадарчых службаў і ўрада дапамагчы з рамонтам, пераездам.

З гэтага пункту гледжання ёсць, вядома, нязручнасці. Можаце ўявіць, што такое пераехаць з Мінска ў Маскву з сям'ёй і наадварот. Або ў Парыж ці Нью-Йорк. Гэта вельмі працаёмка. Таму мы вельмі шчыра папрасілі прабачэнне ў дыпламатаў. Я ж таксама паездзіў у свой час. Але пакідаць іх у «Драздах», дзе экалогія істотна парушана, дзе трэба ўпершыню зрабіць капітальны рамонт, нельга. Я ў гэтым пераканаўся.

Урад прыняў рашэнне 21 красавіка — пытанне ўжо цягнецца доўга — і мы накіравалі нашу першую ноту з просьбай пераехаць праз два тыдні.

Па просьбе дыпламатаў мы зрабілі экспертызу яшчэ раз. Другая наша нота пайшла тыдзень таму назад. Месцы пражывання прапанаваны.

**— Значыць, гэта пытанне тэхнічнае? Але ўзнікла шуміха ў прэсе. Каму гэты скандал выгадны?**

— Пытанне тэхнічнае, як я сказаў, пытанне быту, а не быцця. Але ёсць тэндэнцыя надаць яму палітычную афарбоўку з боку тых, хто наогул гатоў глядзець у Беларусі на ўсе падзеі толькі палітычна.

Калі ў нас адзін насільнік правіць насілле да другога, кажуць, што Беларусь — гэта таталітарная дзяржава. На Захадзе проста насільнікаў саджаюць. Калі ў нас дзесяць хуліганаў арыштаваны ў час дэманстрацыі — кажуць, што ў нас парушаюцца правы чалавека. У гэты час у любой заходняй сталіцы іх арыштоўваюць сотнямі. На жаль, гэта двайны стандарт. Двайны стандарт ахвочай на сенсацыю прэсы. Я шкадую аб тым, што сёй-той хоча ўзняць гэта пытанне на ўзровень палітычны. Мы гэтага не прымем.

Венская канвенцыя, якую цытаваў на прэс-канферэнцыі пасол Злучаных Штатаў пан Спекхард, якога я вельмі паважаю, гарантуе недатыкальнасць жылля дыпламатаў, іх рэзідэнцый і офісаў. Тут размова ідзе не аб тым, каб «дакрануцца». Размова ідзе аб неабходнасці правесці капітальны рамонт.

Ніхто ніякіх сілавых варыянтаў не будзе прымяняць у адносінах да сем'яў або кагосьці. Будуць праводзіць нармальныя работы, і таму сціпла і спакойна просім усіх на гэты час з'ехаць, прадастаўляючы куды, а потым не спяшаючыся вырашаць пытанні далейшага добраўпарадкавання.

**— Ці будзе разглядаць гэта пытанне Еўрасаюз?**

— Пытанне ўжо разглядалася ў Камісіі Еўрасаюза. Мяне так інфармавалі. І гаварылі нават аб тым, што сёй-той з паслоў хоча быць адкліканым у сувязі з гэтым.

Гэта будзе дзіўнае адкліканне. Пры неабходнасці змяніць кватэру да гэтага часу яшчэ паслы дамоў не ад'язджалі. Калі яны паедуць, гэта будзе яскравае сведчанне двайнога стандарту ў адносінах да Беларусі. Нам нават права на рамонт хочуць забараніць. Вось гэта мяне больш за ўсё здзіўляе.

Можам мы што-небудзь у сябе дома рабіць? Мы аддалі ўрадавыя рэзідэнцыі часова. Мінула пяць гадоў. Нам трэба іх адрамантаваць. Маем мы права ў сябе дома папрасіць зрабіць рамонт? Я перакананы, што маем.

Калі будуць працягваць ставіць гэта пытанне, значыць да Беларусі прымяняюцца двайныя стандарты.

Вельмі важна было б сказаць, што пераезд датычыць не толькі паслоў. З'ехаў адтуль з афіцыйнай рэзідэнцыі прэм'ер-міністр, з'ехаў адтуль старшыня Нацыянальнага сходу, з'язджае Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь. Значыць, ёсць прычыны, калі тры асобы — кіраўнікі рэспублікі — вымушаны з'ехаць.

Чаму трэба адразу падазраваць нас у няшчырасці? Мяне гэта здзіўляе.

## УЛАДАЛЬНІКАМ «ЗАЛАТОЙ ШАЙБЫ» — НОВУЮ ФОРМУ

**Прыемную місію выканаў кіраўнік спраў Прэзідэнта Іван Ціцянкоў. Па даручэнню Аляксандра Лукашэнкі ён прыбыў у калгас імя Янкі Купалы Аршанскага раёна і ўручыў пераможцам рэспубліканскага турніру па хакею на прыз «Залатая шайба» спартыўную форму.**

Акрамя таго, у час наведвання гаспадаркі прадстаўніком Адміністрацыі Прэзідэнта, як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама Уладзімір Цацоха, таксама прынята рашэнне прадоўжыць будаўніцтва фізкультурна- аздараўленчага комплексу, узвядзенне якога пачата ў калгасе яшчэ ў 1989 годзе. На гэтыя мэты будзе выдзелена 11 мільярдаў рублёў. Віцебскі аблвыканкам, у сваю чаргу, адшукаў 100 мільёнаў рублёў і падарыў хакейнай камандзе клюшкі, шайбы і мячы. У адказ сельскія спартсмены ўзяліся за стварэнне яшчэ адной хакейнай каманды — дзявочай.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСЬ І ЮГАСЛАВІЮ ЗВЯЗВАЮЦЬ ШЧЫРЫЯ СЯБРОЎСКІЯ АДНОСІНЫ

«Беларусь і Югаславію з даўніх часоў звязваюць шчырыя сяброўскія адносіны. Я ўпэўнены, што іншых адносінаў паміж нашымі краінамі ніколі не будзе». Такую думку ў ходзе перагавораў з дэлегацыяй парламента Саюзнай Рэспублікі Югаславіі 9 чэрвеня выказаў Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Анатоль Малафееў.

У час гутаркі кіраўнік Палаты прадстаўнікоў пазнаёміў югаслаўскіх калег са структурай і функцыямі беларускага парламента, расказаў аб найноўшай гісторыі беларускай дзяржавы і падзеях, якія папярэднічалі рэферэндуму 1996 года. Бакі абмеркавалі цяперашні стан беларуска-югаслаўскіх адносінаў і перспектывы супрацоўніцтва дзвюх краін на міжнароднай арэне, а таксама ў сферы эканомікі і культуры. Была выказана агульная ўпэўненасць у неабходнасці інтэнсіфікацыі міжпарламенцкіх кантактаў паміж Нацыянальным сходам Рэспублікі Беларусь і Скупшчынай Саюзнай Рэспублікі Югаславіі.

**БЕЛТА.**

## ВЫРАШЭННЕ ПРАЦОЎНЫХ СПРЭЧАК — СПРАВА НЯПРОСТАЯ

У Канстытуцыйным судзе Беларусі 9 чэрвеня пачаўся разгляд справы па працоўных спрэчках. Сутнасць яе заключаецца ў вызначэнні адпаведнасці Канстытуцыі і законам краіны пастановы пленума Вярхоўнага суда рэспублікі ад 17 чэрвеня 1994 года «Аб некаторых пытаннях прымянення судамі заканадаўства пры вырашэнні працоўных спрэчак» са змяненнямі і дапаўненнямі, унесенымі 16 снежня таго ж года і 28 чэрвеня 1996 года.

У дакуменце, па якім павінен вынесці вердыкт Канстытуцыйны суд, прадугледжваецца парадак разгляду спрэчак, што ўзнікаюць у сувязі з прымяненнем мераў дысцыплінарнага спагнання да работнікаў, якія адмаўляюцца ад заключэння дагавора аб поўнай матэрыяльнай адказнасці за захаванасць матэрыяльных каштоўнасцяў. Гэта справа была ўзбуджана па прапанове прэзідэнта рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

# «МЫ НЕ ІНШАЗЕМЦЫ АДЗІН АДНАМУ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

— Першы мой візіт у краіны былога СССР адбыўся ў Беларусь не выпадкова, гэта цалкам усвядомленая рэч,— зазначыў на брыфінгу пасля заканчэння пасяджэння Выканкама Саюза С. Кірыенка.— Нам удалося сёння разгледзець вялікае кола праблем, і ў ходзе нашага абмеркавання пытанняў у нас не было рознагалоссяў. Мы адчувалі сябе тут як дома. У нас саюз і гэта абазначае, што ў адносінах адзін да аднаго мы маем аднолькавыя стандарты, гэта датычыцца як беларускіх, так і расійскіх суб'ектаў гаспадарання. У тых дакументах, дзе напісана «нерэзідэнт» альбо «замежнае прадпрыемства», гэта не адносіцца да суб'ектаў гаспадарання Расіі і Беларусі. Мы адзін для аднаго не замежнікі.

Аляксандр Лукашэнка таксама падкрэсліў, што «для нас расіянін не з'яўляецца іншаземцам».

— Мы даўно ў адзінай мытнай прасторы, і ў нас для суб'ектаў гаспадарання розніцы быць не павінна. Я настойваю на тым, што расіянам у Беларусі лепей, чым у сябе на радзіме,— зазначыў беларускі прэзідэнт.

Апрача праблем расійска-беларускага саюза кіраўнік беларускай дзяржавы паставіў сваю кропку ў канфлікце вакол рэзідэнцый замежных паслоў у «Драздах».

— Комплекс «Драздьі» — гэта рэзідэнцыя кіраўніка дзяржавы. І сёння атрымалася так, што за плотам на адлегласці 30—50 метраў знаходзяцца замежныя прадстаўніцтвы ЗША, Германіі, Італіі, Індыі і іншых. Гэта пасляваенная забудова. Калі не было куды сяліць дыпламатаў, выселіўшы ўрад, мы прадаставілі ім гэтыя асабнякі, хто-ніхто іх падрамантаваў, але асноўныя камунікацыі цалкам разваліліся. Мы пабудавалі дыпламатам новы дом, і можам прыступіць да рамонту ўсіх сістэм жыццезабеспячэння комплексу «Драздьі» — рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы... Дыпламаты праз тыдзень адсяляюцца, прэм'ер з'ехаў месяц таму, я — сёння. Мы выканаем усе дамоўленасці: хто меў у «Драздах» уласнасць, ён яе не згубіць, хто заключыў дагавор арэнды да 2001 ці 2000 года, мы абавязкова гэтую дамоўленасць выканаем. Наколькі я разумею, усе праблемы ў гэтым плане знятыя.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# БУДУЦЬ ЯШЧЭ АДНЫ СЛУХАННІ...

**(Заканчэнне.Пачатак на 1-й стар.)**

памеру пенсіі і выплаты часткі пенсіі асуджаным асобам. Былі ўнесены змяненні і ў Закон «Аб адвакатуры». Яны выкліканы зноў жа адпаведным дэкрэтам прэзідэнта.

Простая, на першы погляд, папраўка ў Закон «Аб дзяржаўным бюджэце на 1998 год» далася парламенту не так ужо і лёгка. Змяненне, якое прапанавала Міністэрства фінансаў, ставіць мэтай скасаванне з артыкулаў даходнай часткі даходаў ад продажу лесу на экспарт. Закрануўшы гэтую выключна эканамічную праблему, парламент у ходзе гутаркі пераключыўся на глабальныя праблемы беларускага лесу. У зале нават прагучала прапанова правесці на наступнай сесіі парламенцкія слуханні, дзе дэталёва абмеркаваць становішча ў лясной гаспадарцы.

Аднак асноўная частка дзённага пасяджэння была затрачана на паартыкульнае адабрэнне ў другім чытанні праекта Закона «Аб статусе дэпутата Палаты прадстаўнікоў і члена Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу». Гэты законапраект па сваёй структуры і зместу нагадвае аналагічны дакумент часоў Вярхоўнага Савета. Ён юрыдычна замацоўвае правы і абавязкі парламентарыяў, якімі яны валодаюць фактычна, рэгламентуе розныя сферы іх дзейнасці.

Вяртаючыся да новых пунктаў парадку дня сесіі, трэба адзначыць, што сярод усяго іншага дэпутаты запланавалі правесці 23 чэрвеня парламенцкія слуханні па правах чалавека ў Рэспубліцы Беларусь. Яны пройдуць у адпаведнасці з планам мерапрыемстваў, распрацаваных у нашай краіне з нагоды 50-й гадавіны з моманту прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

***Скандал***

# У Мінску затрыманы «круты» фінансіст

Цалкам верагодна, што да цікавых вынікаў прывядзе расследаванне, якім зараз займаюцца сталічныя сышчыкі. Ім удалося выйсці на «доўгі» след, які цягнецца за банкірам аднаго з камерцыйных банкаў.

Супрацоўнікам упраўлення па эканамічнай злачыннасці ўдалося «раскапаць» амаль што «маманта»: банкір праварочваў справы ў 1995—1996 гадах. Пасада, дарэчы, у чалавека была зайздросная — намеснік начальніка аддзела валютных аперацый. Відаць, таму свае паслугі ён ацэньваў выключна ў цвёрда канвер-соўнай. Міліцыя падазрае, што на працягу гэтых гадоў фінансіст неаднаразова атрымліваў хабар ад адказных асоб розных камерцыйных прадпрыемстваў. Памер хабару залежаў ад «настрою» намесніка начальніка і вагаўся ад 300 да 500 долараў за паслугу. Дапамога ж падазраваемага заключалася ў тым, што ён аказваў паслугі пры спісанні грашовых сродкаў з разліковых рахункаў розных камерцыйных прадпрыемстваў. Банкір затрыманы, міліцыяй, узбуджана крымінальная справа.

**Ігар ГРЫШЫН.**

# «ЗАЛАТЫ» НАСТАЎНІК

Без перабольшання, незвычайную справу падкінуў аператыўнікам з Гродна настаўнік адной з сярэдніх школ раёна. У сышчыкаў літаральна вочы палезлі на лоб, калі яны выслухалі і запісалі заяву пацярпелага. Як потым стала вядома, мясцовы «Макаранка» паведаміў міліцыі, што на яго і жонку ў лесе, калі яны адпачывалі, напалі трое невядомых у масках. Пад пагрозай пісталета яны звязалі перапалоханых мужчыну і жанчыну. Відаць, бандыты наткнуліся на «клондайк»: у настаўніка і яго жонкі ў лесе зладзеі адабралі... 1101 залатьі выраб.

Між тым у Мінску пацярпела адна з вытворча-камерцыйных фірмаў, з тэрыторыі якой знікла шын да «МАЗа» на 250 мільёнаў рублёў. Як аказалася, вінаватай, паводле папярэдняй інфармацыі, аказалася бухгалтар гэтай фірмы, якая ўступіла ў змову з дырэктарам таварыства з абмежаванай адказнасцю і шляхам злоўжывання «дапамагла» аблапошыць уласнае прадпрыемства. Дарэчы, выкрадзенае міліцыі ўдалося вярнуць. Дырэктар ТАА затрыманы, а жанчына адпушчана пад падпіску аб нявыездзе.

**Ігар ГРЫШЫН.**

# ПАПАЛІСЯ ПАЎТОРНА

Супрацоўнікамі Партызанскага РАУС 9 чэрвеня ўзбуджана крымінальная справа ў дачыненні да буйнога валютнага дзялка. Ён паўторна на працягу года затрыманы за гандаль валютай. У падазраваемага канфіскавана 6350 долараў ЗША, 5160 нямецкіх марак, каля 20 тысяч расійскіх рублёў, а таксама 660 мільёнаў беларускіх рублёў. А аператыўнікі Савецкага РАУС Мінска ў гэты дзень пры вобыску па месцы жыхарства другога мяняльі канфіскавалі 350 долараў ЗША і каля 6 мільёнаў беларускіх рублёў. Супраць яго таксама ўзбуджана крымінальная справа.

**Васіль НІКАЛАЕЎ.**

***Падрабязнасці***

# СІТУАЦЫЯ З САЛЬМАНЕЛЁЗАМ НА МІНСКІМ ТРАКТАРНЫМ ЗАВОДЗЕ НАРМАЛІЗАВАЛАСЯ

*У сродках масавай інфармацыі нядаўна з'явілася паведамленне аб сапраўдным усплёску захворвання на сальманелёз на Мінскім трактарным заводзе.*

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» галоўны санітарны ўрач Партызанскага раёна сталіцы Ігар Першын, сітуацыя сёння нармалізавалася — за апошні тыдзень не было зарэгістравана ніводнага адпаведнага выпадку. Сапраўды, некалькі тыдняў таму за дзесяць дзён на МТЗ захварэла 30 чалавек. «Гэты ўзровень крыху вышэй, чым нармальны», — зазначыў Ігар Першын, — аднак трэба ўлічваць і той факт, што асноўная хваля прыпала на панядзелак-аўторак, калі людзі вярнуліся з выхадных».

Увогуле ж кожны тыдзень на МТЗ рэгіструецца да дзесятка выпадкаў кішэчных захворванняў. Не выключаецца пры гэтым, як лічыць Ігар Першын, што крыніцай вірусаў з'яўляецца грамадскае харчаванне (падчас усплёску сальманелёзу на МТЗ знайшлі трох чалавек, якія працавалі ў заводскай сталоўцы і былі носьбітамі захворвання), аднак раённая санітарная служба праводзіць пастаянны нагляд і жорстка кантралюе якасць страў.

Асноўная парада, якую даюць медыкі, — не піць ваду з малавядомых крыніц, паколькі яна можа быць забруджанай. Лепш за ўсё наталяць зараз смагу з бутэлек, гандаль прапануе шырокі асартымент газіраваных мінеральных напояў.

Па-другое, вельмі пільна неабходна адносіцца да спажываемых прадуктаў харчавання, асабліва гэта датычыцца мяса птушкі і яек. Дарэчы, апошнія трэба піць вымытымі ў гарачай вадзе, а лепш за ўсё ўстрымацца ад спажывання іх у сырым выглядзе.

Не насіце ў сумках разам усе прадукты! Сальманелы нават пры непрацяглым кантакце (20—30 хвілін) могуць цудоўна «размясціцца» ўсюды.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

***Інфарм-кактэйль***

Нямецкі інжынер Свен Ютке з Фрайбургскага інстытута інфарматыкі распрацаваў своеасаблівыя «акуляры» для пазбаўленых зроку людзей. Прыдуманы ім прыбор уяўляе сабой навігацыйную сістэму. Яна складаецца з дзвюх мініяцюрных тэлекамер, якія злучаны з пераносным камп'ютэрам, які пераўтварае аптычны сігнал у гукавы і тым самым паведамляе невідушчаму аб перашкодах на яго шляху. Такія «акуляры» робяць непатрэбнай палачку, якой сляпыя абмацваюць перад сабой дарогу.

**Асашыэйтэд Прэс**

*Бутэлечка піва да вячэры прыкладна гэтак жа спрыяе «бегу ад інфаркту», як келіх чырвонага віна, што даказалі даследаванні, праведзеныя над 129 жыхарамі Каліфорніі. Вучоныя лічаць, што фенолавыя злучэнні, якія ўтрымліваюцца ў чырвоным віне, служаць надзейнымі абаронцамі нашага сэрца. У піве іх, праўда, меней, але алкаголь у разумных дозах памяншае рызыку захворванняў сасудзістай сістэмы арганізма. Амерыканцы рэкамендуюць мужчынам штодзённа выпіваць два куфлі піва, а жанчынам — у два разы меней.*

**«Мегаполіс-экспрэс».**

Студэнтка Лысьвенскага медыцынскага вучылішча ішла па цэнтральнай вуліцы, калі ёй у галаву трапіў вялікі асколак шкла, які выпаў з аконнай рамы з трэцяга паверха дома. Прахожыя выклікалі «хуткую дапамогу» і праз некалькі гадзін жыццё пацярпелай было ў бяспецы. Гаспадыня «нядобрай кватэры», відаць, ні ў чым не вінавата — яна знаходзілася ў іншым пакоі. Нехта са сведак выказаў думку, што гэта дзівацтвы дамавіка...

**«Труд».**

# СВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ ЛІЧЫЦЬ, ШТО, КАЛІ ЧАЛАВЕК ІДЗЕ НА БАРЫКАДЫ, СВЕТ ПАДАЕЦЦА АДНАЗНАЧНЫМ, АДНАБОКІМ

*Вядомая беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч, якая піша па-руску, — нячасты госць у чытацкіх аўдыторыях.*

Ужо таму, відаць, камерную, невялікую па аўдыторыі сустрэчу з аўтарам «Цынкавых хлопчыкаў», «Чарнобыльскай малітвы» і іншых запамінальных у свеце кніг, у сталічным кінатэатры «Змена» можна лічыць падзеяй выключнай. Праўда, і памянёны кінатэатр для Беларусі таксама выключны — у «Змене» дэманструюцца дакументальныя фільмы пра знакамітых нашых суайчыннікаў, сюды на дыялог з чытачамі ў розныя часы прыходзілі Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Уладзімір Арлоў...

Пра што гаварыла Святлана Алексіевіч і ў сваім маналогу, і адказваючы на пытанні чытачоў? Пра ўласны пісьменніцкі і мастацкі пошук, пра тое, што нельга мераць свет адно толькі праз беларускую дыоптрыю, што лепей весці размову не на мове заклінанняў, а на мове ідэй. Калі чалавек ідзе на барыкады, лічыць пісьменніца, навакольны свет становіцца для яго адназначным, усё падаецца аднабокім. І рэвалюцыя ў Беларусі ўжо захлынулася, наўрад ці калі паўторыцца.

Матывы, якія гучаць у кнігах Святланы Алексіевіч, выходзяць за межы постсавецкай прасторы. Як прыклад — кнігі нашай зямлячкі, выдадзеныя ў Кітаі, Сербіі, іншых краінах свету. Дарэчы, «Зачараваныя смерцю» Святланы Алексіевіч напісаны як быццам для Сербіі, ёсць там і вёскі-самазабойцы, і гарады-самазабойцы, што ўжо казаць пра людзей.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ХУТКА І СМАЧНА КОРМЯЦЬ ПАКУЛЬ НЕ ПАЎСЮДНА

На працягу некалькіх бліжэйшых месяцаў у Мінску з'явяцца яшчэ два новыя стацыянарныя прадпрыемствы хуткага харчавання. Адно з іх адчыніць свае дзверы на вуліцы Даўгабродскай, 14, дзе будзе адначасова размяшчацца і нарыхтоўчая база па выпуску паўфабрыкатаў для іншых «бістро». Другое размесціцца ў правым крыле кафэ «Бярозка», у той жа час у левым яго крыле пачне працаваць кафэ беларускай нацыянальнай кухні. Аб гэтым падчас прэс-канферэнцыі, прысвечанай перспектывам развіцця хуткага харчавання ў рэспубліцы, паведаміла журналістам загадчык аддзела грамадскага харчавання Міністэрства гандлю Валянціна Ерафеенка.

Усяго ж прапанаваннем насельніцтву хуткага харчавання ў краіне займаюцца зараз 600 кропак, 200 з якіх знаходзяцца ў сталіцы. Найбольш выйгрышна ў плане стварэння прадпрыемстваў беларускай кухні выглядае горад Калінкавічы Гомельскай вобласці, дзе на базе ўласнага загатовачнага прадпрыемства распрацавана цэлая сетка невялікіх мабільных павільёнаў, ажыццяўляецца продаж паўфабрыкатаў для хуткага прыгатавання хатнім гаспадыням. Добрыя ўмовы для развіцця нацыянальных «бістро» мае і Віцебская вобласць, на тэрыторыі якой дзейнічаюць некалькі фабрык па нарыхтоўцы паўфабрыкатаў. Дарэчы, менавіта дэфіцыт прадпрыемстваў такога роду (а іх усяго 8) і з'яўляецца галоўным тормазам далейшага распаўсюджвання кропак хуткага харчавання з беларускай кухняй па ўсёй краіне. Праблема нумар два — адсутнасць высакаякаснай сыравіны для паўфабрыкатаў з агародніны. Відавочна, што ў сусветныя стандарты, па якіх працуе агульнавядомы «Макдональдс», нашы вытворцы ўпісацца ніяк не могуць, а гэта азначае, што сур'ёзнай канкурэнцыі амерыканскім бутэрбродам у нас пакуль таксама не існуе.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

***Пра тых, хто побач***

# ВЕДАЙ НАШЫХ!

*Трэст «Белпрамналадка» займаецца інжынерным абсталяваннем Палаца Рэспублікі*

Журналісцкая брацiя мае схільнасць (як, дарэчы, і кожны іншы чалавек) мадэліраваць звычайна вялікія праекты, не заўважаючы пры гэтым тых, што знаходзяцца літаральна побач.

Так здарылася, напэўна, і з Рэспубліканскім спецыялізаваным трэстам «Белпрамналадка», прамысловыя плошчы якога размясціліся пад вокнамі Дома прэсы. Шыльду прадпрыемства ўсе мы бачылі, спяшаючыся на працу, але гэтая інфармацыя заставалася дзесьці на ўзроўні падсвядомасці і цікаўнасці не выклікала. «Ну і што, колькі такіх трэстаў паўсюдна раскідана», — так думаў, напэўна, кожны.

А, як аказалася, «Белпрамналадка» — прадпрыемства арыгінальнае і унікальнае. Чым займаюцца? Ды ўсім, пачынаючы ад сцёкаў і аж да радыеактыўных ізатопаў. У трэст уваходзяць упраўленні электра-, цеплаэнерга- і тэхнаналадкі, а таксама ўчастак па ахове паветра і наладцы вентылятараў.

Калектыў прадпрыемства на 85 працэнтаў складае інжынерны састаў — з паўтысячы чалавек, што тут працуюць, толькі 70 маюць рабочыя спецыяльнасці (апошнія — на ўчастку па рамонту рухавікоў і на падсобных работах). Аплата — здзельная, у залежнасці ад таго, колькі хто вядзе і здае аб'ектаў. Своечасовасць выплаты заробкаў «вызначае» заказчык — калі пералічыць грошы, тады і выдаюць. Памеры заработнай платы таксама вагаюцца ў межах 2,5—6 мільёнаў.

Заказчыкі ў «Белпрамналадцы» (дарэчы, адзінай у Беларусі дзяржаўнай наладачнай арганізацыі) прыстойныя — нядаўна спецыялісты трэста ўдзельнічалі ва ўвядзенні ў дзеянне Беларускага цэментнага завода ў Касцюковічах, а сёння працуюць над інжынерным абсталяваннем Палаца Рэспублікі. Так што сваю нездаволенасць нявырашанымі сацыяльна-эканамічнымі пытаннямі могуць асабіста самаму высокаму кіраўніцтву выказаць. Праўда, падстаў для злосных папрокаў пакуль няма. «На нашым прадпрыемстве, — лічыць старшыня прафкама «Белпрамналадкі» Віктар Коган, — не існуе канфлікту паміж адміністрацыяй і працоўнымі, усе праблемы вырашаем разам».

Узяць тое ж аздараўленне — сезонная праблема, якая ўсіх сёння цікавіць. На «Белпрамналадцы» ўжо на сённяшні дзень адпачылі 10 працоўных. Спіс кандыдатаў вызначае калектыў. Кошт пуцёўкі льготны і залежыць ад заробку: калі атрымліваеш 10 «мінімалак» у месяц — плаціш 10 працэнтаў, а калі больш за 25 — 30 (я прывёў гранічныя лічбы, паміж імі, як вы разумееце, ёсць яшчэ больш дэталёвае размеркаванне). З 10 адпачыўшых 1 нават у Адэсу з'ездзіў за... 1,4 мільёна рублёў. Някепска, праўда? Да канца года адпачнуць яшчэ не менш як дзесяць працоўных (адзін з дваццаці пяці).

Дзяцей таксама не крыўдзяць — адпраўляюць адпачываць усіх жадаючых. На першую змену паедуць 14, на другую — столькі ж. Абмежаваная колькасць? «Ды не, — упэўнены старшыня прафкама прадпрыемства, — дэфіцыту пуцёвак у нас няма, проста не ўсе ў аздараўленчыя лагеры жадаюць ехаць». Можа яно і так, ды і кошт адпачынку для дзяцей тым, хто зарабляе па 3 мільёны, можа быць не па кішэні — бацькам трэба ўнесці 10 працэнтаў кошту, гэта значыць, дзесьці 520—560 тысяч рублёў.

У размовах з працоўнымі прадпрыемства гучала такое нязвыклае сёння выказванне: «Не трэба губляць аптымізму, са сваёй спецыяльнасцю мы галоднымі сядзець не будзем». Спадзяванні зразумелыя, бо кожнае грамадства пачынае свой шлях да дабрабыту менавіта з будаўніцтва.

Пасадзіць дрэва, пабудаваць дом, выгадаваць дзіця...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

***Сацыялогія***

# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ ЗАРАЖАНА «ВІРУСАМ ЭКСТРЭМІЗМУ»?

Да такога несуцяшальнага выніку прыйшла група сацыёлагаў Магілёўскага тэхналагічнага інстытута, якая вывучала даволі далікатную тэму — «Экстрэмізм навучэнцаў і студэнцкай моладзі Беларусі». У ходзе даследавання было апытана больш за тысячу чалавек у Мінску, Гродне, Магілёве і сельскіх раёнах Магілёўскай вобласці.

Так, сацыёлагі не адмаўляюць таго факта, што «вірус экстрэмізму» ёсць у любым грамадстве, нават самым палітычна і эканамічна дабрабытным. Тэрарыстычныя акты адбываюцца і ў квітнеючай Амерыцы, і ў суперразвітой Японіі. Але сітуацыя з экстрэмізмам абвастраецца менавіта там, дзе грамадства аслабленае крызісам у палітыцы або эканоміцы, ці нават нейкім прыродным катаклізмам. Інакш кажучы, у нашай краіне «вірус экстрэмізму» мае вялікую базу для распаўсюджвання, а таму і шанц «вырвацца» і нарабіць дрэннага — папярэджваюць даследчыкі маладзёжных настрояў.

Ва ўсякім разе, нашай талерантнай Беларусі не вельмі пасуюць наступныя лічбы: пятнаццаць маладых людзей са ста лічаць для сябе магчымым пайсці на забойства ці самазабойства, трынаццаць са ста — учыніць тэрарыстычны акт «у залежнасці ад сітуацыі», а чатырнаццаць працэнтаў апытаных не будуць супраць бачыць па пасадзе прэзідэнта... Тэрмінатара! Дарэчы, больш за ўсё «фонавых тэрарыстаў» вучыцца ў сталічных ВНУ, і чым далей ад Мінска — тым іх менш. Характэрна таксама, што сярод маладых людзей, якія гатовы пайсці на такую крайнюю меру як тэракт, найбольш «троечнікаў» — з сярэднім балам школьнага атэстата «здавальняюча» і ніжэй.

Кожны чацвёрты навучэнец ці студэнт лічыць магчымым удзельнічаць у несанкцыянiраваных дэманстрацыях, кожны пяты гатовы пайсці на акцыі грамадзянскага непадпарадкавання, больш за трэць апытаных не супраць, «калі трэба», пайсці на забастоўку. Прычым такую сітуацыю нельга растлумачыць прыналежнасцю да якой-небудзь палітычнай партыі ці грамадскага руху, бо да розных з іх маюць дачыненне толькі адзінкі ўдзельнікаў сацыялагічнага апытання.

Але найбольшую трывогу ў сацыёлагаў выклікае ледзь не татальны нігілізм маладых беларусаў: амаль 60 працэнтаў прызнаюць магчымым парушэнне законаў. Справа яшчэ і ў тым, што маладыя грамадзяне толкам і не ведаюць, якія законы ім належыць выконваць, бо больш за 90 працэнтаў не вельмі добра ведаюць або ўвогуле не ведаюць законаў, па якіх жыве іх краіна.

Але разам з тым сацыёлагі лічаць, што супраць беларускага «віруса экстрэмізму» можна і трэба знайсці «прышчэпку», якая дапаможа грамадству вывесці з парогавага ўзроўню імкненне маладых людзей да крайніх негатыўных поглядаў і мераў.

— Экстрэмальную энергію моладзі, якая можа стаць вялікай разбуральнай сілай, трэба імкнуцца накіраваць у іншае, пазітыўнае рэчышча, — настойвае кіраўнік сацыялагічнай групы, доктар навук Юрый Бубнаў. — Мяркую, што ў першую чаргу ў рэчышча легальнай прадпрымальніцкай дзейнасці. Увогуле любой дзейнасці — да прыкладу, палітычнай ці творчай — але легальнай. Калі экстрэмальнай энергіяй будзе кіраваць здаровая прага да вядомасці, калі імкненне да экстраардынарнасці накіраваць на справы добрыя і законныя, то чалавек можа дасягнуць вялікіх вышынь у любой сферы і грамадства ад гэтага толькі выйграе.

**Ілона ІВАНОВА.**

Тавары ад «Беллег

# ВЫГЛЯД ЕЎРАП
# ДАБРОТНАСЦЬ – АЙЧ

***НАПАЧАТКУ ПРА ТАКІ ВЫПАДАК**, пра які яшчэ раней расказалі на мінскім швейным прадпрыемстве «Элема» (прадпрыемства і марка — добра вядомыя. Адзенне, якое выпускаецца тут, адпавядае самым высокім спажывецкім патрабаванням. Пры гэтым варта нагадаць: «Элема» створана на базе ранейшай фабрыкі імя Крупскай, якая была зусім непрыкметным прадпрыемствам — адпаведна, па прычыне непрыкметнасці сваёй прадукцыі).*

*А выпадак наступны: кемлівыя «чаўнакі» ўжо вельмі хутка заўважылі новы ўзровень прадукцыі «Элемы», малавядомай напачатку, і пачалі навешваць на гэту прадукцыю этыкеткі знакамітых замежных фірмаў — усё ішло на «ўра».*

*Гэта, аднак, было раней, калі «Элему» слаба ведалі. Цяпер жа ўжо толькі наяўнасць элемаўскай маркі гарантуе добры збыт. Адным словам, фірма!*

*Такіх «фірменных» прадпрыемстваў сёння ў канцэрне «Беллегпрам» нямала. Варта прыгадаць тут і знакамітую мінскую «Мілавіцу», за вырабамі якой становяцца ў чаргу замежныя аптовыя пакупнікі, і жодзінскі «Світанак», і магілёўскую «Вяснянку», і бабруйскую «Славянку», і брэсцкія камбінаты дывановы і панчошны, і многія іншыя прадпрыемствы. Дарэчы тут жа сказаць і пра наступны факт: сёлета вясной у Маскве праходзіў кірмаш вырабаў лёгкай прамысловасці, якія выпускаюцца ў краінах СНД. Удзельнічалі ў кірмашы і беларускія прадпрыемствы. І вярнуліся адтуль са спецыяльнымі дыпломамі. Як лепшыя, у каго былі самыя паказальныя ўзоры. Дакладней — дыпломы ім былі ўручаны пазней, ужо дома, прэзідэнтам канцэрна «Беллегпрам» Валерыем ПЯТРОВЫМ.*

*Работнікі лёгкай прамысловасці, у тым ліку і канцэрна «Беллегпрам» (і нават у першую чаргу работнікі канцэрна, бо на яго долю прыпадае 87 працэнтаў прадукцыі лёгкай прамысловасці, якая выпускаецца ў рэспубліцы), адзначаюць 14 чэрвеня сваё прафесійнае свята. Напярэдадні свята мы сустрэліся з прэзідэнтам канцэрна.*

**— Валерый Аляксеевіч, якраз цяпер вы праводзіце кірмаш (да ўвагі чытачоў: гэта было на момант гутаркі). Чым ён выкліканы? Можа, праблемай збыту?**

— Павінен зазначыць, што збыт — гэта, так сказаць, заўсёды барацьба. І якраз з тым, каб папярэдзіць праблему збыту, праводзіцца і той жа кірмаш. Прадпрыемствы заключаюць дагаворы з гандлем на ўвесь год яшчэ восенню, але ж на працягу года могуць памяняцца мода, фасон — значыць, варта ўдакладніць асартымент, што, адпаведна, і робіцца праз паўгода. Падобная практыка дадае аператыўнасці ў рабоце над асартыментам, не дазваляе прадпрыемствам расслабляцца. З задавальненнем зазначу: узоры, якія прадстаўлены на цяперашнім кірмашы, — проста выдатныя. Увогуле, многія вытворцы ў тым, што датычыць якасці і асартыменту, істотна рушылі наперад. Напрыклад, знік вал, а г. зн. імкненне апрануць усіх аднолькава, тавары выпускаюцца малымі партыямі. Гандаль вельмі ахвотна супрацоўнічае з усімі нашымі прадпрыемствамі, іх прадукцыю бяруць, што называецца, нарасхват расійскія аптовыя пакупнікі.



*Прэзідэнт канцэрна Валерый ПЯТРОЎ.*

## Канцэрн «Беллегпрам» упэўнена вяртаецца да ранейшых аб'ёмаў, маючы пры гэтым намнога вышэйшы ўзровень якасці

**— Прэзідэнт Саюза прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў нашай суседкі Украіны ў адным з выданняў агучыў наступную нездаровую, на яго погляд, тэндэнцыю, якая мае месца ў яго краіне: там рэзка ўпала доля лёгкай прамысловасці ў агульным аб'ёме ВУП — з 11 працэнтаў у 1990-91 гадах да 2 працэнтаў цяпер. А якое месца займае лёгкая прамысловасць у нас і якія адносіны да яе?**

— З усіх рэспублік былога Саюза пазіцыі 1990 года па лёгкай прамысловасці ўдалося ўтрымаць толькі Узбекістану. Мы ў сябе, зразумела, гэтыя пазіцыі таксама страцілі. Аднак і страт панеслі намнога меней за іншых, і ідзем у гэтых адносінах менавіта ўслед за Узбекістанам. А ва Украіне, а таксама ў Расіі, сапраўды, лёгкая прамысловасць па сутнасці у заняпадзе. Так, у Расіі цяперашнія аб'ёмы яе складаюць толькі 10 працэнтаў да ўзроўню 1990 года. Праўда, апошнім часам там з'явілася нямала малых прадпрыемстваў, а з імі і цікавых калекцый... Мы, думаю, к канцу года будзем мець больш за 70 працэнтаў ранейшых аб'ёмаў. Наша лёгкая прамысловасць, пачынаючы з 1996 года, развіваецца вельмі дынамічна.

Адсюль можна зрабіць і выснову наконт адносінаў да яе. Нам грэх скардзіцца. Урад у 1995-96 гадах аказаў нам сур'ёзную фінансавую падтрымку, асабліва гэта датычыць нашых базавых прадпрыемстваў, напрыклад, Баранавіцкага баваўнянага камбіната.

Увогуле, пытанне паспяховага развіцця айчыннай лёгкай прамысловасці — гэта найперш пытанне забеспячэння яе ў дастатковай колькасці сыравінай. І, напрыклад, што датычыць Баранавіцкага камбіната, то нам, у прыватнасці, дазволена прызначаную для абавязковага продажу заробленую ўсімі прадпрыемствамі канцэрна валюту (нагадаю: дзяржаве трэба прадаваць 30 працэнтаў) выкарыстоўваць на закупку бавоўны.

З'явілася ў дастатковай колькасці бавоўны — і сёлета ў Баранавічах за 5 месяцаў зрабілі ў 2 разы больш, чым у мінулым годзе. А не падтрымалі б камбінат — сёлета не было б і 30-працэнтнага росту выпуску баваўняных вырабаў на нашых швейных і трыкатажных прадпрыемствах.

Мы хацелі б, каб гэткім жа чынам пайшлі нам насустрач і пры закупках воўны, якой цяпер вельмі востра не хапае.

Тут жа варта сказаць, што нам даводзіцца закупляць у немалой колькасці за мяжой і гарбарную сыравіну. А яшчэ, на вялікі жаль, лён, якім нас маглі б поўнасцю забяспечваць айчынныя сельгасвытворцы. Так, у мінулым годзе ў іх быў такі ўраджай (зразумела, у двукоссі), што каб Аршанскі льнокамбінат разлічваў толькі на яго, то, няйначай, паўгода не працаваў бы. Але аршанцам удалося заключыць дагаворы з пэўнымі фірмамі і завезці лён з Літвы, Галандыі — пры гэтым на выпрабаванай ужо ў лёгкай прамысловасці давальніцкай аснове (схема наступная: фірмы пастаўляюць лён і забіраюць частку тканін).

Такім чынам, лён — гэта таксама наша стратэгічная сыравіна, а з улікам таго, што яго цалкам можна атрымліваць у сябе ў рэспубліцы, — можа, і найбольш важная. Думаю, ільнаводства атрымае належны імпульс пасля нядаўняй вялікай рэспубліканскай нарады, якая адбылася на Аршанскім ільнокамбінаце з удзелам прэзідэнта краіны.

Дадам таксама: апошнім часам мы шмат працуем над праблемай перапрацоўкі кароткага льнавалакна, з якога нельга вырабіць тканіны і якое, на жаль, паступае да нас у пераважнай колькасці. Асноўны шлях тут — прывядзенне гэтага льновалакна да ўласцівасцяў бавоўны, або катанізацыя, і, адпаведна, наступнае змешванне яго з бавоўнай і прадзенне па баваўнянай тэхналогіі. Прычым у такіх сумесях можна выкарыстоўваць льновалакна да 60—70 працэнтаў. Вядома, патрэбны адпаведныя тэхніка і тэхналогія.

**— Вы казалі наконт давальніцкай сыравіны. Яшчэ 2-3 гады таму работа прадпрыемстваў на такой аснове была для іх сапраўдным выратаваннем, асабліва гэта датычыць швейнай прамысловасці. Аднак апошнім часам аб'ёмы прадукцыі з выкарыстаннем давальніцкай сыравіны падаюць, а адносна гэтага прынцыпу часам гучыць крытыка. Маўляў, вытворчасць на давальніцкай сыравіне або матэрыялах — стратная?..**

— Тое, што доля давальніцкай сыравіны змяншаецца, — гэта добра. Больш важкі долар можна зарабіць, выкарыстоўваючы сваю сыравіну (пры гэтым, зразумела ж, замежныя давальцы арыентаваліся і арыентуюцца на нашу больш танную рабочую сілу, прычым добра кваліфікаваную). Разам з тым, сапраўды, работа многіх прадпрыемстваў на давальніцкай аснове з'явілася для іх асновай выжывання, а таксама добрай навукай гаспадарання. Замежныя давальцы разам з сыравінай прадаставілі і новыя тэхналогіі, сучасныя матэрыялы і мадэлі адзення. Работа з прымяненнем давальніцкай сыравіны дазволіла ўтрымаць старыя і асвоіць многія новыя рынкі збыту. Словам, гэта была неблагая вучоба, а кіраўніцтва, работнікі прадпрыемстваў аказаліся нядрэннымі вучнямі. У нас сёння шыюць і носяць нармальныя швейныя вырабы — як ва ўсім свеце, на рынку з'явіўся тавар добрай якасці, вельмі разнастайны па асартыменту. Я вось паглядзеў на нашым кірмашы мужчынскую сарочку, якую пачалі выпускаць на Мазырскай швейнай фабрыцы разам з немцамі. Гэта сарочка — вышэйшага класа, не часта ў Германіі такую ўбачыш, ды і дарагая яна там, элітны выраб. Якасць выканання, прымяняемых матэрыялаў і робяць яе такой класнай.

Чаму іншы раз лічаць работу на давальніцкай аснове стратнай? Тут усё залежыць ад таго, па якому курсу зароблены ў выніку долар, ці дакладней — рэнтабельнасць вытворчасці, лічыць: па афіцыйнаму, нацбанкаўскаму, ці рэальнаму? Нацбанкаўскі курс, сапраўды, нярэдка паказвае стратнасць. Увогуле, мы строга кантралюем работу на давальніцкай аснове: калі заключаюцца адпаведныя кантракты, яны абавязкова трапляюць да спецыялістаў



*У мінскім ААТ «Элема»: начальнік швейнага цэха Галіна СОБАЛЕВА са швачкамі Любоўю НЕНАДАВЕЦ, Таісай МІЦКЕВІЧ, Раісай ГЕРАСІМЕНКА.*



*Старшыня БРК прафсаюза работнікаў лёгкай прамысловасці Валерый ЖДАНОВІЧ і ветэран вайны і працы, былы дырэктар Мінскага тонкасуконнага камбіната Віктар АРБУЗАЎ.*




*Фірменны магазін «Беллегпрама» на Нямізе ў Мінску.*



*У мінскім ААТ «Галантэя»: дырэктар Марыя КАРНАВУХАВА і начальнік лабараторыі Вера НАЎРОЦКА.*

## ФОРУМ ВЫРАШЫЦЬ УСЕ ПРАБЛЕМЫ СНД?

**15 чэрвеня ў Мінску ў штаб-кватэры СНД пачнецца першае пасяджэнне спецыяльнага міждзяржаўнага форуму, на якім будуць разгледжаны праблемы рэфарміравання Садружнасці Незалежных Дзяржаў.**

Аб пазіцыі нашай краіны на гэтым форуме паведаміў на прэс-канферэнцыі пастаянны паўнамоцны прадстаўнік Рэспублікі Беларусь пры статутных і іншых органах СНД Сяргей Посахаў.

Мяркуецца, што дэлегацыі будуць узначальваць кіраўнікі на ўзроўні віцэ-прэм'ераў урадаў краін.

Плануецца стварыць дзве рабочыя групы: па рэфарміраванню органаў Садружнасці і па стварэнню зоны свабоднага гандлю. Першую групу ўзначаліць беларускі бок, а другую — украінскі.

Наша краіна прапануе стварыць пры Выканаўчым сакратарыяце СНД у Мінску, пры фінансавай падтрымцы камітэта Вярхоўнага камісара па справах бежанцаў ААН інфармацыйна-аналітычны цэнтр па барацьбе з незаконнай міграцыяй. Сяргей Посахаў падкрэсліў, што сёння за інфармацыю аб перамяшчэнні незаконных мігрантаў сусветная садружнасць згодна плаціць вельмі вялікія грошы. Вельмі хутка гэта праблема моцна закране і дзяржавы Садружнасці. Так, напрыклад, у Маскве сёння колькасць незаконных мігрантаў складае больш як 2 мільёны чалавек. Увогуле, такі форум, па меркаванню беларускага боку, павінен надаць новы імпульс інтэграцыі паміж краінамі СНД.

**Сяргей КУРКАЧ.**



## ХАРАСТВО І БАГАЦЦЕ ЛЯСОЎ БЕЛАРУСКІХ

Сорак гадоў працуе ў лясной гаспадарцы Уладзімір Барысавіч Шутро, розная пабачыў на сваім вяку, і часцей за ўсё, па яго словах, сэрца балела ад безгаспадарчасці ў гэтай зялёнай скарбніцы. Цяпер перад вачыма ветэрана з'явіліся іншыя прыклады адносінаў да незлічонага багацця лясоў. У Барысаўскім доследным лясгасе, дзе ён працуе, дзейнічае унікальны цэх перапрацоўкі дрэва. Ніводны грам пілавіння або кары, ніводная галінка ссечанага дрэва не губляецца тут — сучасная тэхналогія дазваляе атрымліваць самыя розныя віды прадукцыі. За змену тут перапрацоўваюць шэсцьдзесят кубаметраў дрэва.

Уладзіміру Барысавічу даручана кіраваць адным з самых адказных участкаў — ён гаспадарыць у лесапітомніку.

Мінаюць гады, падымаецца на прасторных дзялянках новы лес, каб урэшце аддзячыць — аддаць людзям прыгажосць і цеплыню магутных дрэў.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**



### ЛЯСЫ-БАЛЯСЫ

## І ЗНОЎ ПА-ЗА ПРАГРАМАЙ

Весткі пра тое, што цяпер супергурт «Песняры» нарэшце прыме ўдзел у нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі, аказаліся значна перабольшанымі. Ужо пяць разоў фестываль праходзіў без легенды беларускай музыкі. Неверагодна, але факт. Мастацкі кіраўнік фестывалю Міхаіл Фінберг увесь час скардзіўся, што з «Песнярамі» вельмі складана дамовіцца. Быў працяглы абмен факсамі — і ў рэшце рэшт гурт у выніку не выходзіў на маладзечанскую сцэну. Хаця за чвэрць стагоддзя свайго існавання «Песняры» сталі культавым калектывам, іх уклад у развіццё беларускай песні заслугоўвае асаблівай увагі.

Пасля таго як «Песняры» падзяліліся на два саставы, з'явілася надзея, што хоць адзін з іх выступіць у Маладзечне. На адной прэс-канферэнцыі Фінберг запэўніў, што на гэты раз гурт дакладна прыме ўдзел у фестывалі. Нічога падобнага. У фестывальнай праграме, якая складзена, ізноў няма «Песняроў». Хаця, кажуць, прапанову ім дасылалі. Вось толькі якому саставу, да каго яна трапіла? Канешне, існаванне фактычна двух калектываў з адной назвай заўсёды ўносіць дадатковую неразбярыху.

### ЗДАРЭННІ

## «СУВЕНІРЫ» ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ

Двойчы нагадала аб сабе вайна напрыканцы мінулага тыдня ў Магілёўскай вобласці. «Сувеніры» тых часоў на сваіх прысядзібных участках падчас правядзення праполкі і баранавання знайшлі людзі. Першае здарэнне адбылося ў вёсцы Забалоцце, дзе вачам пенсіянера адкрыліся адразу чатыры паржавелыя мінамётныя міны. Да прыбыцця сапёраў на месцы небяспекі прыйшлося выставіць пост аховы. А крыху пазней за вёскай прагучалі і выбухі.

Другі выпадак адбыўся ў Горках, дзе мужчына на сваім участку знайшоў снарад. Зноў-такі ад напаміну аб вайне прыйшлося пазбаўляцца з дапамогай сапёраў.

**Ігар ГРЫШЫН.**

### ПЫТАЛЬНІК

## ПАЕЗДКА Ў РАСІЮ ЛІЧЫЦЦА ЗАМЕЖНАЙ КАМАНДЗІРОЎКАЙ, АЛЕ...

*Звяртаецца да вас вадзіцель грузавога аўтамабіля з прычэпам грузапад'ёмнасцю 20 тон. Паміж намі, вадзіцелямі і адміністрацыяй грузавога парка, узніклі праблемы. Вельмі прашу вас дапамагчы іх вырашыць. Як аплачваюцца камандзіроўкі ў Расію пры перавозцы грузаў? Колькі кіламетраў павінен праехаць адзін вадзіцель за адну змену і колькі — два вадзіцелі на адным аўтамабілі пры міжнародных перавозках?*

**Мікалай Жарскі,** г. Салігорск

Каб атрымаць адказы на пытанні нашага чытача, мы звярнуліся ў Міністэрства транспарту і камунікацый. Дык вось, усе камандзіроўкі ў краіны СНД аплачваюцца згодна з пастановай Міністэрства працы № 59 ад 9.06.1997 «Аб зацвярджэнні палажэння аб умовах працы работнікаў Рэспублікі Беларусь за мяжой». Паездкі ў Расію прыраўноўваюцца да замежных. Праўда, калі чытач меў на ўвазе, ці павінны яны аплачвацца ў расійскіх рублях, адказаць тут адназначна нельга, бо ў сваім лісце ён нічога не паведаміў пра сваё прадпрыемства (ці дзяржаўнае яно, якімі перавозкамі займаецца і інш.). У міністэрстве параілі вадзіцелям парка звярнуцца да раздзела 14 вышэйпамянёнага палажэння, які называецца «Гарантыі і кампенсацыі пры камандзіроўках за мяжу». Што датычыць пытання наконт «прабегу» за адну змену на вадзіцеля, тут таксама завочна нічога не адкажаш. Ёсць сацыяльныя нормы рабочага часу, якія былі ўведзены ў дзеянне з 1 студзеня 1996 года. Яны, у прыватнасці, прадугледжваюць кароткачасовыя перапынкі і інш. у залежнасці ад даўжыні шляху. Паўнай жа «нормы» кіламетраў на вадзіцеля ў змену не існуе, перапынкі вызначаюцца зыходзячы з канкрэтнага маршруту.

## ІЛЬГОТЫ ДЛЯ ВОІНАЎ-ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТАЎ

*Вельмі хачу даведацца, якімі льготамі карыстаюцца «афганцы». Маю на ўвазе плату за праезд, за жыллё, за лячэнне і г. д.*

**Мікалай Вітушка,**
в. Бяларучы, Лагойскі раён.

Як паведамілі нам у Міністэрстве сацыяльнай абароны, грамадзяне Беларусі, якія выконвалі воінскі ці службовы абавязак у Афганістане ці іншых краінах, дзе вяліся баявыя дзеянні, маюць наступныя гарантаваныя дзяржавай ільготы:

I. У АХОВЕ ЗДАРОЎЯ

Ветэраны-«афганцы» маюць права па заключэнні медустаноў бясплатна праходзіць лячэнне ў спецыяльных рэабілітацыйных цэнтрах, атрымліваць рэцэпты для бясплатнай выдачы лекаў, на якія маецца медыцынскія паказанні, яны карыстаюцца прывілеямі ў медыцынскім забеспячэнні і санаторна-курортным лячэнні.

Інваліды карыстаюцца правам на штогадовае бясплатнае санаторна-курортнае лячэнне, а непрацуючыя інваліды могуць замест пуцёўкі атрымаць кампенсацыю ў памеры сваёй месячнай пенсіі па 31 снежня года, у якім пенсіянер не выкарыстаў пуцёўку.

Ветэраны Афганістана могуць бясплатна і без чаргі пратэзаваць канечнасці, органы зроку і слыху, ротавую поласць (акрамя пратэзаў з каштоўных металаў, фарфору і металакерамікі) у дзяржаўных установах.

Калі ж чалавека ўрач накіраваў у іншае месца на лячэнне ці кансультацыю, кошт праезду туды і назад яму кампенсуецца.

Калі ў шпіталях для ўдзельнікаў і інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны ёсць свабодныя месцы, там у першую чаргу могуць лячыцца воіны-інтэрнацыяналісты.

Выходзячы на пенсію, яны захоўваюць права на атрыманне медыцынскай дапамогі ў тых медустановах, да якіх былі замацаваны ў час работы.

II. ЖЫЛЛЁВА-БЫТАВЫЯ ЛЬГОТЫ

Аднаразовае права на першачарговае атрыманне жылой плошчы ў памяшканнях, пабудаваных на бюджэтныя сродкі;

прыярытэт пры ўступленні ў жыллёвыя, жыллёва-будаўнічыя, гаражныя кааператывы і садаводчыя таварыствы.

Тыя, хто стаіць на ўліку як маючыя патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, маюць права на атрыманне льготных крэдытаў для будаўніцтва (рэканструкцыі) ці куплі жылых памяшканняў.

«Афганцам» прадастаўляецца 50-працэнтная скідка па аплаце жылой плошчы ў межах нормаў, прадугледжаных заканадаўствам, аплаце камунальных паслуг (ацяпленне, водазабеспячэнне, каналізацыя, газ, электраэнергія), а тым, якія пражываюць у дамах без цэнтральнага ацяплення, — 50-працэнтная скідка на паліва ў межах нормаў, вызначаных для продажу насельніцтву. Палову трэба плаціць і за тэлефон (акрамя міжгародніх і міжнародных размоў). Але — увага! Усе льготы, пазначаныя ў гэтым абзацы, пачынаюць дзейнічаць толькі па дасягненні ветэранам пенсійнага ўзросту (мужчынам — 60 гадоў, жанчынам — 55). У Мінсацабароны нам сказалі, што пытанне аб адмене ўзроставай мяжы на гэтыя, бадай, самыя важныя льготы (чалавек, прайшоўшы праз пекла Афганістана, можа да пенсіі не дажыць) падымалася на розных узроўнях не раз, але, на жаль, так і не было вырашана.

Затое ветэраны любога ўзросту могуць у першую чаргу набыць ва ўласнасць незаселеную кватэру ў доме, які падлягае рэканструкцыі ці капрамонту, пры ўмове, калі чалавек мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Ім павінны ў першую чаргу выдзяляць зямельныя ўчасткі пад будаўніцтва, аказваць дапамогу пры ўзвядзенні жылля. Пераважнае права на ўстаноўку кватэрнага тэлефона таксама значыцца ў спісе льгот.

III. ЛЬГОТЫ Ў ГАЛІНЕ ПРАЦОЎНЫХ ПРАВОЎ І ГАРАНТЫЙ

«Афганец» можа ўзяць штогадовы адпачынак у зручны для яго час і дадатковы адпачынак за свой кошт на два тыдні.

Пры асваенні новай прафесіі яму выплачваецца 100 працэнтаў тарыфнай стаўкі за ўвесь час навучання. Калі ж павышэнне кваліфікацыі ці перападрыхтоўка ідзе з адрывам ад вытворчасці — захоўваецца сярэдняя зарплата.

Калі ж на прадпрыемстве ідзе скарачэнне — ветэрана павінны пакінуць на працы, калі прадпрыемства забяспечваецца — яму прадастаўляецца права на першачарговае працаўладкаванне.

Пры накіраванні «афганца» службай занятасці ў любую арганізацыю, установу, прадпрыемства, незалежна ад формаў уласнасці, тыя павінны абавязкова прыняць яго на працу.

На базе Беларускага цэнтра перападрыхтоўкі і працаўладкавання ваеннаслужачых запасу вядзецца бясплатнае прафесійнае навучанне па спецыяльнасці.

IV. ЛЬГОТЫ ПА ПРАЕЗДУ

Бясплатны праезд на ўсіх відах гарадскога пасажырскага транспарту (за выключэннем таксі) і на аўтамабільным транспарце агульнага карыстання ў сельскай мясцовасці ў межах адміністрацыйнага раёна незалежна ад месца пражывання;

50-працэнтная скідка з кошту праезду адзін раз у год (туды і назад) па чыгунцы, а ў раёнах, дзе няма чыгункі, — водным, паветраным ці міжгародным аўтамабільным транспартам (ільгота датычыцца асоб, якія атрымалі раненні, кантузіі і калецтва ў баявых дзеяннях);

бясплатны праезд на прыгарадным аўтамабільным і чыгуначным транспарце.

V. ЛЬГОТЫ Ў ГАЛІНЕ АДУКАЦЫІ

Пазаконкурсны прыём пры атрыманні станоўчых адзнак паступаючых у ВНУ і тэхнікумы на ўсе формы навучання;

бясплатнае атрыманне другой вышэйшай адукацыі, калі раней атрыманая прафесія проціпаказана па стану здароўя ці няма работы па спецыяльнасці ў раёне пражывання;

навучанне асновам прадпрымальніцтва, уключаючы і стажыроўку за мяжой, за кошт дзяржавы.

### «ГАРАЧЫЯ» ТЭЛЕФОНЫ «ЗВЯЗДЫ»: 268-27-51; 268-27-57

## КАЛІ Ў КРАНЕ НЯМА ВАДЫ, ВІНАВАТЫ... КАМЕНЬЧЫК?

Патэлефанавалі жыхары сталічнай вуліцы Сонечнай. Справа ў тым, што падчас правядзення рамонтна-эксплуатацыйных работ у кватэрах адсутнічае не гарачая, а халодная вада. Дарэчы, такая сітуацыя здараецца тут не толькі ў летні сезон. Будынак, дзе жывуць нашы чытачы, амаль сталінскіх часоў, і зразумела, што камунікацыі не ў лепшым стане. Аднак уявіце сабе сітуацыю, калі чалавеку неабходна раніцай асвяжыць твар. А як гэта зрабіць з дапамогай кіпеню?

На наш зварот наконт вырашэння гэтай сапраўды неадназначнай праблемы работнікі сталічнай жыллёва-эксплуатацыйнай службы № 9 адказалі наступным чынам: будынак стары, таму ўсякае можа здарыцца. У любым выпадку зацікаўленым неабходна перш за ўсё звяртацца ў дыспетчарскую службу ЖЭСа і афармляць заяўку. Магчыма, як зазначылі ў размове з карэспандэнтам «Звязды» прадстаўнікі жыллёвай службы, прычынай недастатковага напору ў трубах можа паслужыць звычайны каменьчык. З дапамогай спецыялістаў недахопы павінны быць выпраўлены. Калі ж на ўзроўні ЖЭСа праблема не вырашыцца, жыхар мае права звярнуцца ў ЖРЭА Ленінскага раёна. Больш таго, за неатрыманую паслугу павінны рабіцца пераразлікі.

Хочацца папярэдзіць нашых чытачоў: звяртайцеся ў ЖЭСы, патрабуйце, дабівайцеся, нельга плаціць чужыя даўгі....

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**



Малюнак Аляксандра КУРЫЛЫ.

## Старонка Паўла Глобы

**12 чэрвеня, ПЯТНІЦА**

**РЭКАМЕНДАЦЫІ.** Абмяжуйце свае кантакты, не рэкамендуецца многа перамяшчацца. Сачыце за тым, што адбываецца і як вы на ўсё рэагуеце. Гэта можа стаць яркай ілюстрацыяй таго, хто вы такі на самай справе. Неабходна кантраляваць свае думкі і аддзяляць рэальнасць ад ілюзій. Рэкамендуецца старанна прыбраць дом, займацца ручной працай. Сачыце за тым, каб у доме было светла, уначы нельга адкрываць вокны і фортку. Добры дзень для ювелірных работ, абточвання камянёў. Карысныя адзінота, пост і малітва.

**МЕДЫЦЫНА.** Небяспека пераломаў. Нельга лячыць зубы. Забаронены донарскія працэдуры, лячэнне падстраўнікавай залозы, печані, крыві. Карысна праводзіць практыкі па ачыстцы арганізма ад шлакаў.

Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».

Электрычка спазнілася на дзве хвіліны. А можа спяшаўся гадзіннік... У прынцыпе, якая розніца? Мэта была даволі простая: зайсці ў вагон, заплюшчыць вочы, адключыцца на паўтары гадзіны. Прыемная рэч.

Камандзіроўка была нескладаная, але бесталковая. Прыйшлося шмат ездзіць, шукаць, гаварыць. Адзіным вясёлым момантам была аб'ява ў інстытуце. Яна паведамляла аб навукова-практычнай канферэнцыі на тэму «Дуб — парода трэцяга тысячагоддзя». Ад нечаканасці я спыніўся і зарагатаў. На мяне азірнуліся.

— Вы... што? — спытаў суправаджаючы.

— Тут яўная памылка, — кажу. — Гэта парода вечная... «Дуб» і ёсць «дуб».

Суправаджаючы нічога не зразумеў, а мне смяяцца расхацелася.

Над галавою грукнула, электрычка мякка скранулася з месца. Па вачах разанула нясцерпна-яркім святлом. Сонца ўжо прыцэлілася сесці ў гушчар ружова-фіялетавых воблакаў. Сонца пасылала апошнія промні.

Была вясна, пачатак красавіка, нечакана цёплага і яснага. Час, які я вельмі люблю. Хаця так я магу сказаць пра кожную пару года. Калі быць дакладным, я люблю пачатак і канец. Сярэдзіна мяне цікавіць мала. Напрыклад, пачатак вясны альбо канец восені. Як быццам тут няма логікі: любі што-небудзь адно. Я знаходжу. Пачатак, думаю, гэта заўсёды надзея. Нават калі ты, скажам, сядзіш у турме. А канец... Тут свая асалода. Напэўна, таму, што надзеі ніколі не спраўджваюцца.

Мне ўжо пад сорак. Якраз такі час, калі пачынаеш цаніць дробныя дэталі жыцця. А вялікія мэты ўжо не хвалююць. Неяк раптам разумееш: дробныя дэталі і былі самымі важнымі. Праўда, для разумення гэтага некаторым не хапае ўсяго жыцця...

Пад гэтыя філасофскія разважанні я заснуў. А прачнуўся ад моцнага штуршка. Электрычка мёртва стаяла. Насельніцтва вагона пераважна драмала. Стомленасць вісела ў паветры. На суседняй лаўцы размаўлялі хлопец з дзяўчынаю. Нешта мяне ў гэтай карціне за-

**Адзін з апошніх сказаў апавядання Сяргея Шаўцова (журналіста, супрацоўніка «Звязды», які, само сабой, добра вядомы яе чытачам) — «увогуле было цёпла». Я чытаў, уключаючы і «Нямую», усяго тры апавяданні гэтага аўтара, і кожны раз ад прачытання на душы рабілася менавіта цёпла. Ёсць у яго творчасці штосьці, я сказаў бы, чэхаўска-мапасанаўскае, штосьці такое сапраўднае, ад чаго мы, чытачы і «майстры найноўшага пяра», на нашу ж біду, пакрысе адвыкаем. Інакш гэтае «штосьці сапраўднае» можна назваць так: проста класная проза.**

**Андрэй ФЕДАРЭНКА.**



***На конкурс «Звязды» і Саюза пісьменнікаў Беларусі***

**Сяргей ШАЎЦОЎ**

# НЯМАЯ

АПАВЯДАННЕ

інтрыгавала. Я не адразу зразумеў, што гаворыць хлопец, а дзяўчына робіць рукамі таямнічыя пасы.

«Нямая», — аўтаматычна адзначыў я і зноў задрамаў. У наступнае абуджэнне гэта пара размаўляла з дапамогай блакнота. Хлопец быў падпіўшы. У той стадыі, калі хочацца размаўляць безупынна. Ён мне спадабаўся: адкрыты твар з добрымі сумнымі вачыма. Праз нейкі час я адзначыў, што спадабаўся ён не толькі мне: дзяўчына была празмерна ажыўленай, а вочы яе блішчэлі.

Мне ўвогуле падабаюцца людзі з сумнымі вачыма. Чалавек, у якога ёсць падставы сумаваць, не здольны на подласць і здраду. Дакладная прымета. Яму б са сваім горам разабрацца.

Спаць расхацелася. Я выйшаў пакурыць у тамбур. Цікава, бываюць шлюбы паміж нармальнымі і нямымі? Можа быць. Я пачаў уяўляць гэта на практыцы. Выходзіла — нічога добрага.

«Сигарета в руке, чай на столе...» — на месцы хлопца і дзяўчыны сядзеў дзяцюк і слухаў магнітафон. А іх саміх не было. Значыць, выйшлі. Мне стала чагосьці шкада. Сам не ведаю чаго. Такое бывае, я заўважыў. Аказваецца, я да гэтай пары паспеў прывыкнуць. Як гэта здарылася?

Потым выйшаў і дзяцюк. У шчыліне паміж лаўкай і сценкай вагона быў відаць блакнот. Той самы. Верх узяла прафесійная звычка: аб чым яны маглі размаўляць? Блакнот я кінуў у сумку. І забыўся на яго. Бо ў горадзе даводзіцца ўключацца ў іншы рытм, і, каб цябе не адпіхнулі, трэба думаць толькі аб тым, каб цябе не адпіхнулі...

Блакнот я знайшоў праз тыдзень і доўга не мог уцяміць, адкуль ён. Нарэшце прыгадаў. І стаў чытаць. Тут, між іншым, была работа і для графолага. Адзін почырк быў няроўны, літары скакалі ўверх-уніз. Другі — роўны, круглы, вядома, дзявочы.

— Як цябе завуць?

— Таня. А цябе?

— Арцём. Куды едзеш, Танюха?

— Так... Да сяброўкі.

— Ты мяне прабач, а што такое з табою здарылася?

— А я такая нарадзілася.

— Цяжка жыць?

— Не. Мы прывыклі.

— А дзе твае бацькі, Таня?

— Яны ад мяне адмовіліся...

— Як так?

— А вось так. А ты б не адмовіўся?

— Ну гэта ж апошняя справа, я не ведаю, так нельга. У мяне бацька памёр, калі я малы быў, дык дагэтуль сумую. Амаль і не помню яго.

— Табе лягчэй. Лепш бы мае памерлі. Я б тады іх успамінала. А так што ж...

— Шкада. Ты прабач.

— Арцём, а чым ты займаешся?

— Студэнт. Замежныя мовы вывучаю. А ты?

— Ды так. Швачка. «Спяцухі» шыем на трактарным.

— А колькі табе гадоў?

— Васемнаццаць. Мы ўсе спецшколу заканчваем, вучаць там шыць ці што яшчэ. У інстытуты нас не прымаюць. Сам разумееш.

— Прабач.

— Ды нічога. А колькі табе?

— Дваццаць. Стары ўжо.

— У цябе і дзяўчына ёсць? Відаць, прыгожая?

— Ну, ёсць. А чаму прыгожая?

— А ты сам прыгожы хлопец.

— Ну, ты скажаш. Вось ты — прыгожая. Табе ніхто не гаварыў?

— Можа, і казалі, ды я не чую. А на пальцах гэта не тое.

— Таня, а ў цябе таксама хлопец ёсць?

— Ды ходзіць адзін. Стары, 28 гадоў. Кажа, ажаніцца хачу.

— А ты?

— А што я? Не вечна ж па інтэрнатах цягацца, а ў яго кватэра.

Лічбы на электронным табло высвечвалі — 17.45. Вакол снавалі людзі. Пахла духамі і тытунёвым дымам. У высокай зале галоўпаштамта глуха гудзела. Салдат ля кіёска купляў паштоўкі і спрабаваў «закадрыць» маладую прадаўшчыцу. Ля ўваходу ў залу стаяў міліцыянер і рабіў выгляд, што пільна за чымсьці назірае. На самай справе ён хаваўся ад дажджу...

— Ясна, Таня. А я вось і не ведаю, можа ажаніцца? Дзяўчына мая хоча. А я вагаюся.

— Дурны. Пагуляй яшчэ, ты зусім малады. А дзяўчаты заўсёды хочуць. Ты нас не ведаеш.

— Чаму ты так гаворыш?

— А што? Хіба не так? Ты вунь які хлопец. Ды і работа ў цябе будзе добрая. Вось яна і хоча цябе прыбраць.

— Таня, ды чорт з ёю. Паедзем да цябе. Ты мне спадабалася. Я не жартую.

— Арцём, а што мы з табою будзем рабіць? Навошта табе гэта?

— Таня, я не жартую.

— І я не жартую, Арцём. Я табе не трэба. Ты проста крыху лішняга выпіў. У цябе сваё жыццё, у нас — сваё.

— Чаму ты кажаш «у нас»?

— Ты сам ведаеш. Мне зараз выходзіць. Бывай.

— Та...

На гэтым запісы абрываліся.

Я выйшаў пад дождж і закурыў. І зноў былі прыцемкі. З неба сыпалася нешта мокрае і вельмі-вельмі дробнае. Цёпла свяцілі вокны рэстарана насупраць. Увогуле было цёпла. Быў красавік, ужо амаль сярэдзіна.

Трэба было ехаць дадому.

***ПРАВА НА СВАБОДУ АБ'ЯДНАННЯЎ***

# БЕЛАРУСКІЯ ПАРТЫІ МАЮЦЬ ПРАВА НА ІСНАВАННЕ

## *Якое яно — кожны вырашае сам*

Закон Рэспублікі Беларусь «Аб палітычных партыях», які быў прыняты 5 кастрычніка 1994 года, з'яўляецца адносна дэмакратычным дакументам. Ён пацвердзіў канстытуцыйнае права грамадзян на свабоду аб'яднання ў палітычныя партыі, якім, у сваю чаргу, гарантаваў даволі шырокія паўнамоцтвы ў ажыццяўленні праграмных мэтаў і задач. Аднак, нягледзячы на тое, што неўзабаве споўніцца 10 гадоў, як была знішчана аднапартыйная сістэма і ў рэспубліцы пачалі стварацца альтэрнатыўныя камуністычнай палітычныя арганізацыі дэмакратычнага напрамку, да гэтага часу ў Беларусі так і не сфарміравалася цэласная, дзейсная і ўплывовая шматпартыйная сістэма.

Статыстычныя даныя, сабраныя Міністэрствам юстыцыі, сведчаць, што большасць партый не маюць у сваіх шэрагах больш за тысячу членаў, і толькі чатыры-пяць арганізацый налічваюць больш за пяць тысяч чалавек. Калі падзяліць гэтую колькасць на дзесяцімільённае насельніцтва Беларусі, то відавочна, што партыйнай прыналежнасцю не можа ганарыцца нават палова працэнта беларусаў. Чаму ж грамадзяне краіны ігнаруюць дадзенае законнае права? На гэтае пытанне можна было б адказаць проста і коратка: партыі не змаглі заваяваць аўтарытэт сярод шырокіх слаёў насельніцтва і даказаць, што могуць рэальна змагацца за ўладу і адстойваць правы пэўных сацыяльных колаў грамадства. Аднак гэтае сцвярджэнне сапраўды надзвычай простае і ў сваю чаргу параджае новыя пытанні. Сутнасць праблем, звязаных з пабудовай шматпартыйнасці ў Беларусі, на самай справе больш глыбокая і складаная.

Пачнём з грамадскай сітуацыі. Па-першае, больш чым 70-гадовае панаванне камуністычнай ідэалогіі ў асобе КПСС у многіх нашых суайчыннікаў наогул адбіла ахвоту мець нейкія зносіны з палітычнымі партыямі. Па-другое, моцныя сацыяльна-эканамічныя ўзрушэнні змянілі не толькі існаванне пэўных сацыяльных груп, але і асобных грамадзян. Палітолагі выказваюць думку, што наша грамадства да гэтага часу не можа ачуняць ад гэтых узрушэнняў і выйсці з аморфнага стану. А партыі якраз узнікаюць у той час, калі адбываецца аб'яднанне сацыяльных груп насельніцтва і вызначаюцца канкрэтныя не толькі эканамічныя, але і палітычныя мэты, дасягнуць якіх немагчыма толькі нефармальным шляхам. У нас жа пакуль нельга казаць пра аформленую і разгалінаваную структуру інтарэсаў розных грамадскіх сіл. Зараз кожны імкнецца выратавацца самастойна.

Вяртаючыся да гісторыі кампартыі, асабліва апошніх гадоў яе існавання, неабходна адзначыць, што яшчэ адну негатыўную рысу яна выхавала ў грамадстве. Справа ў тым, што партыю людзі прывыклі ўспрымаць у значнай меры з карыслівага пункту гледжання. Мабыць, не памылюся, калі скажу, што перад чалавекам, у якога сёння з'яўляецца магчымасць уступлення ў тую ці іншую палітычную арганізацыю Беларусі, узнікае «заканамернае» пытанне: а што мне асабіста гэта дасць? І са свайго пункту гледжання ён мае рацыю: калі чалавек рэгулярна плаціць членскія ўзносы сваёй арганізацыі, то ён павінен разлічваць на нейкую дапамогу з яе боку.

Так, менавіта звычкі і традыцыі савецкіх часоў, якія з настальгіяй успамінаюцца значнай часткай народа, прымушаюць глядзець на любую цяперашнюю партыю, як некалі на камуністычную, удзел у якой гарантаваў гонар і пашану ў грамадстве, быў неабходнай умовай беспераШкоднага прасоўвання па службовай лесвіцы, даваў многія іншыя буйныя і дробныя даброты, так мілыя чалавечай сутнасці. Відавочна, гэта было магчыма толькі ва ўмовах зрошчвання партыі з дзяржаўным апаратам.

Сёння, зразумела, такога няма. Часы былых партыйных «кармушак» прайшлі, і грамадзяне свядома ці падсвядома разумеюць, што сучасныя партыі нічога падобнага ім не дадуць. Змяненні ў структуры палітычнай сістэмы абярнуліся тым, што значная катэгорыя грамадзян ужо не разглядае партыю як сродак паляпшэння свайго грамадска-сацыяльнага ці матэрыяльнага становішча.

Такім чынам, каб зацікавіць чалавека, палітычная партыя павінна зараз не толькі мець высокія і адначасова спакуслівыя мэты і задачы, праграму і статут, яна павінна выклікаць давер і быць рэальна дзеючай. Гэтага магчыма дасягнуць толькі пры добрым фінансавым забеспячэнні. Таму партыі павінны навучыцца зарабляць грошы. На жаль, дастатковай заможнасцю не можа пахваліцца ніводная палітычная арганізацыя краіны, хіба толькі за выключэннем Ліберальна-дэмакратычнай партыі.

Беднасць, як вядома, не загана, але менавіта гэтая рыса стала адной з прычын сумнага становішча абсалютнай большасці айчынных партыйных арганізацый. Многія не ў стане нават раздрукаваць некалькі соцень брашур са сваімі статутам і праграмай, яны не маюць абсталяваных офісаў, а іншы раз нават не валодаюць кантактным тэлефонам. Зразумела, такое становішча ні ў якім разе не можа садзейнічаць стварэнню станоўчага іміджа той ці іншай партыі. Цяжка разважаць у такім разе пра нейкую цікавасць да іх з боку грамадства і прыток новых людзей. Я ўжо не кажу пра выпуск уласных газет ці бюлетэняў, ад чаго непасрэдна залежыць папулярызацыя партыі і ажыццяўляецца інфармаванне грамадскасці пра яе дзейнасць. На сённяшні дзень толькі абедзве камуністычныя, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная грамада) і Партыя здаровага сэнсу выдаюць свае газеты.

Закон «Аб палітычных партыях» вызначае пяць крыніц паступлення сродкаў: а) уступныя і членскія ўзносы; б) даходы ад маёмасці, выдавецкай дзейнасці, распаўсюджвання друкаваных выданняў і публікацый, выкарыстання іншых СМІ; в) паступленні ад правядзення культурна-масавых, дабрачынных і іншых мерапрыемстваў; г) ахвяраванні і падарункі; д) іншыя паступленні, не забароненыя заканадаўствам. Дарэчы, у адрозненне ад некаторых еўрапейскіх краін, дзе партыі часткова фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту, у Беларусі заканадаўча забаронена іх фінансаванне дзяржавай.

Зразумела, у надзвычай складаным сацыяльна-эканамічным становішчы, у якім дзесяцігоддзе дрэйфуе наша грамадства, немагчыма разлічваць на членскія ўзносы. Пра даходы ад маёмасці таксама нельга гаварыць, паколькі многія арганізацыі проста не маюць уласнай маёмасці, а для выдавецкай дзейнасці і правядзення рознага кшталту мерапрыемстваў патрэбен пачатковы капітал, які таксама звычайна адсутнічае. Найбольш рэальнай крыніцай фінансавых паступленняў, такім чынам, з'яўляюцца ахвяраванні. За мяжой, у былых савецкіх рэспубліках, прынамсі, гэта таксама адзін з галоўных артыкулаў даходаў.

Праўда, трэба асобна закрануць палітычны бок узаемаадносінаў прадпрымальнікаў з партыйнымі арганізацыямі, паколькі практыка іх, нягледзячы на неспрыяльны клімат, усё ж існуе. Успомнім, напрыклад, пярэдадзень прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў. Менавіта тады была створана значная частка партый, а іх актыўнасць, мабыць, аказалася максімальнай за ўвесь час існавання. На друкаванне лістовак, правядзенне агітацыйных мерапрыемстваў і іншую падтрымку кандыдатаў былі патрачаны немалыя сумы. У той час прадпрымальніцкія структуры цесна супрацоўнічалі з палітычнымі арганізацыямі. Яны давалі грошы пад канкрэтных людзей, якія вылучаліся кандыдатамі і пры ўмове перамогі маглі лабіраваць інтарэсы як сваёй партыі, так і камерцыйных колаў.

Такім чынам, у Беларусі выкарыстоўвалася практыка, якая існуе ва ўсім свеце. Але адрозненне айчыннай сітуацыі ў тым, што бізнесмены забыліся на партыі адразу пасля выбараў. Ды і, відаць, няхутка ўспомняць, паколькі ў бліжэйшай перспектыве ніякіх выбарчых кампаній не прадугледжваецца.

Але, па вялікаму рахунку, нават у такіх умовах магчыма было б супрацоўніцтва бізнесу і партыйных арганізацый. Не проста магчыма, а нават заканамерна. Праўда, калі ўлічыць акалічнасць, што грошы заўсёды выдзяляліся пад канкрэтныя праграмы ці канкрэтных людзей. Але, на жаль, у сваёй большасці палітычныя партыі Беларусі характарызуюцца адсутнасцю папулярных, харызматычных лідэраў, якія б маглі эфектыўна кіраваць арганізацыяй, аб'ядноўваць вакол сябе аднадумцаў, ставіць дакладныя мэты і дабівацца іх.

Дарэчы, гэты недахоп параджае новыя праблемы, якія адбіваюцца на ўсёй сістэме шматпартыйнасці. На фоне адсутнасці па-сапраўднаму моцных асоб нярэдка вядуцца працяглыя спрэчкі за лідэрства ў партыях паміж людзьмі, якія не валодаюць якасцямі лідэра, хаця па прычыне завышанай самаацэнкі прэтэндуюць на першыя ролі. У выніку на падставе гэтага адбываюцца частыя расколы ў і без таго нешматколькасных і неўплывовых арганізацыях. З адной партыі ўтвараюцца дзве ці нават тры. І такая дрэнная тэндэнцыя пакуль пераважае. На сённяшні дзень наогул склалася сітуацыя, калі з трыццаці юрыдычна дзеючых партый многія маюць не толькі блізкія праграмныя мэты, але нават падобныя назвы. У Мінюсце зарэгістраваны тры партыі сацыял-дэмакратычнага накірунку і адна сацыялістычная, па дзве камуністычныя, рэспубліканскія і нацыянальныя, па тры экалагічныя і хрысціянска-дэмакратычныя, былі дзве спартыўныя.

Наіўна было б чакаць, што дзяржава, органы ўлады стануць усебакова падтрымліваць палітычныя партыі і максімальна спрыяць іх развіццю і росту аўтарытэту ў грамадстве. Бо любая партыя ў рэшце рэшт сама ставіць мэту прыйсці да ўлады. Мабыць, таму сёння існуе шмат прыкладаў, калі ўлады маўкліва назіраюць за сітуацыяй.

У такіх умовах выратаванне тапельцаў, як кажуць, справа рук саміх тапельцаў. Аднак складваецца ўражанне, што партыйныя функцыянеры цалкам згодныя з сённяшнім становішчам і не зацікаўленыя ў станаўленні ў Беларусі ўплывовай і паўнацэннай сістэмы шматпартыйнасці. Нават спробы стварыць у краіне нейкую пастаянна дзеючую кансультатыўную міжпартыйную структуру заўсёды правальваліся: перамагалі дробныя асабістыя крыўды.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

***СЁННЯ***

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Феадосіі, Іаана**
**К. Барнабы-апостала**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература паветра ў Гродне — 26—28, Брэсце, Мінску, Магілёве, Віцебску — 27—29, Гомелі — 28—30 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак: 12-га — у заходніх, а 13-га і ў цэнтральных раёнах пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы, месцамі [illegible] ўдзень пры [illegible] лістае ўзмацненне ветру да 15—20 м/сек. Тэмпература ўначы — 16—21, удзень — 27—32; 13-га на захадзе рэспублікі ўначы 10—15, удзень — 19—24 градусы вышэй нуля.

***ВІНШАВАННІ***

*Шчыра віншуем з 70-годдзем дарагога* ***Анатоля Сямёнавіча КАНОНЧЫКА*** *з в. Слабада Рагачоўскага раёна. Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці, вясёлага настрою і доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

**Дзеці, нявесткі, зяці.**

*Віншуем з днём нараджэння* ***Аляксандра Станіслававіча ПАЗНАНСКАГА****. Жадаем здароўя, сямейнага дабрабыту, шчасця і радасці ў жыцці.*

**Жонка, дзеці,** в. Крэва.

***Людміла Яўгенаўна БАХАР****, віншуем з 40-гадовым юбілеем. «Адна з прыемных нам падзей — сягоння ў Люды юбілей. Жадаем радасці, спакою, здароўя моцнага. Ну, і для поўнага жыцця пражыць гадоў хаця б да ста».*

**Сябры па працы,**
г. Навагрудак.

*Сардэчна віншуем з 30-гадовым юбілеем дарагога сына* ***Леаніда Валянцінавіча БЯЛЬКО****. Жадаем моцнага здароўя, здзяйснення мараў, шчасця, радасці, дабрабыту.*

**Родныя**, в. Каплічы.

Згубленае пасведчанне аб праве на льготы серыі А № 224230, выдадзенае на імя ЖУКАЙЦА Ігара Канстанцінавіча, лічыць несапраўдным.

# ХОЧАЦЕ ВЕРЦЕ

*КРЫМІНАЛ*

## КУДЫ ЗНІКАЕ МЯСА І СПЛЫВАЕ МАЛАКО?

### *Адказ на гэта пытанне шукае пракуратура*

Галоўны бухгалтар ААТ «Магілёўскі масласырзавод» падрабіла подпіс дырэктара завода на плацежным дакуменце і пераявла на рахунак АТП № 1 г. Магілёва 30 млн. руб. у лік аплаты паездкі на поўдзень асоб, якія не з'яўляюцца работнікамі завода. Чаму яна гэта зрабіла, высвятляе следства.

Кладаўшчыца цэха рэалізацыі Светлагорскага малочнага завода В., злоўжываючы службовым становішчам, выкрала са склада некалькі соцень няўлічаных пакетаў смятаны і тварагу больш чым на 5 млн. рублёў і, склаўшы фіктыўную накладную, спрабавала вывезці з завода.

Апаратчыкі Магілёўскага мясакамбіната Т. і К., папярэдне дамовіўшыся з трыма кантралёрамі ведамаснай аховы камбіната, выкралі 165 кг каўбасы, перакінуўшы яе цераз плот. І падобныя злачынствы здараюцца на вельмі многіх прадпрыемствах галіны.

Загадчыкам аднаго з гомельскіх магазінаў, прыватным асобам, якія прадставіліся работнікамі ТАА «Экамед», была адпушчана без дагавора, перадаплаты і даверанасці партыя згушчанага малака на 85 млн. рублёў.

Работнікамі міліцыі каля Жодзіна затрымана аўтамашына з нумарнымі знакамі Узбекістана. У паўднёвых гасцей выяўлена больш за тону малака ў поліэтыленавых пакетах, набытага па дамоўленасці ў магазіне Смалявіцкага малочнага завода.

Пракурорамі ў ходзе праверкі ў інтарэсах прадпрыемстваў прад'яўлена іскаў аб вяртанні страт на 774 млн. рублёў, якія спагнаны судамі, унесена 23 прадпісанні кіраўнікам, больш за 20 службовых асоб прыцягнуты да рознага роду адказнасці.

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**старшы памочнік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь.**

## СКУПКА І ВЫВАЗ ПРАДУКТАЎ

### *Яны часта абарочваюцца стратамі*

Канешне ж, не столькі буйныя барышы простым жыхарам Беларусі патэнцыяльна абяцаюць скупка ў рэспубліцы і перапродаж у Расіі малочнай прадукцыі. Да гэтага некаторых прыводзіць беднасць. Аб гэтым сведчаць у апошні час вынікі разбору па дадзеных фактах.

Следчым аддзяленнем унутраных спраў на транспарце Жлобінскага УУС узбуджана крымінальная справа ў адносінах да жыхаркі Рагачова, якая скупіла ў магазінах дзяржгандлю 60 бляшанак згушчанага малака і спрабавала вывезці на продаж у Расію. Расследуецца і крымінальная справа ў дачыненні да мясцовай грамадзянкі, якая скупіла ў магазіне 159 пачкаў тварагу і 60 пакетаў смятаны. А следчыя полацкай міліцыі прыступілі да разгляду крымінальнай справы ў дачыненні да маладой палачанкі за скупку 146 пакетаў тварагу і 647 глазураваных сыркоў. Ва ўсіх затрыманых прадукты канфіскаваныя. Як бачна, дадзеная форма папаўнення сямейнага бюджэту ўсё больш абарочваецца для сям'і вялікімі маральнымі і матэрыяльнымі стратамі.

**Васіль НІКАЛАЕЎ.**



## НЕ РАСКІДАЙ ВАЛАСЫ ПА ВЕТРЫ

Да валасоў у розных народаў заўсёды былі асаблівыя адносіны. Да прыкладу, у Старажытнай Русі за вырваныя ў бойцы валасы з барады ці вусоў бралі вялізны па тым часе штраф — 12 грыўняў — больш, чым за скалечаную руку...

Даследчыкі ўсё часцей выказваюць думку, што валасы чалавека — свайго роду антэны, дзякуючы якім ён успрымае энергію Космасу і абменьваецца інфармацыяй з навакольным светам. Трубчастая структура валасоў вельмі напамінае радыёінжынерам так званыя хвалеводы. Гэтыя прыстасаванні выкарыстоўваюцца вельмі шырока: па іх практычна без страт перадаецца высокачастотная энергія.

Выказваецца меркаванне, што дзякуючы дадатковай расліннасці на твары мужчын павялічваецца спажыванне імі так званай Янь-энергіі. Лічыцца, што гэты від касмічных выпраменьванняў надзяляе воляй і актыўнасцю, рашучасцю і рызыкоўнасцю, агрэсіўнасцю, здольнасцю да рацыянальнага лагічнага мыслення і іншымі «мужчынскімі» якасцямі... Можа быць, не выпадковае імя біблейскага героя: Самсон азначае «сонечны», «атрымліваючы сілу ад Сонца»? І хто ведае, ці не пазбаўляюцца сёння мужчыны чагосьці вельмі ім неабходнага, голячы да люстэркавага бляску свае шчокі? І можа быць, зусім не ад ляноты мудрацы і свяшчэннаслужыцелі спрадвеку насілі бароды і вусы? І ці такім смешным быў вечна няголены Бетховен, калі заяўляў, што галенне пазбаўляе яго творчага натхнення?

На цікавы роздум наводзіць і статыстыка, якая сцвярджае, што лысыя людзі ў сярэднім жывуць менш за тых, у каго многа валасоў. Не выключана, што гэта звязана з тым, што яны атрымліваюць менш жыццёвай энергіі з Космасу...

А вось цудоўнаму полу лішак «мужчынскай» энергіі процілапаказаны. Жанчыны больш патрабуюць так званай энергіі Інь, якая нясе эмацыянальна-чуллівы пачатак.

Верагодна, менавіта тут заключаны патаемны сэнс некаторых традыцый. Напрыклад, той, што замужнім жанчынам нельга знаходзіцца ў храме з непакрытай галавой. Не выключана, што гэта забарона глыбінна звязана з тым, што ўсе прасторы храма (асабліва яго алтарнай часткі) вельмі моцна насычаны Янь-энергіяй. А распушчаныя валасы больш успрымальныя да навакольнай энергіі, чым сабраныя ў пучок або пад галаўны ўбор. І можа не выпадкова распушчаныя жаночыя валасы так не любілі нашы продкі? Яны лічыліся прыметай непакорлівасці, дзёрзкасці, гардыні, незалежнасці і нешанавання традыцый.

Нашы сучасніцы, наадварот, імкнуцца прадэманстраваць свае валасы. Ці не з'яўляецца гэта знакам таго, што жанчына ўсё больш імкнецца да незалежнасці, да актыўнай дзейнасці ў сферах, якія раней лічыліся чыста мужчынскімі?

І хто ведае, можа прычоска мае не толькі эстэтычны, але і які-небудзь іншы глыбока схаваны сэнс?

Валасы, сабраныя на патыліцы ў вузел, не толькі змяншаюць уплыў на чалавека навакольнага асяроддзя, але і садзейнічаюць яго канцэнтрацыі на ўнутраным свеце. Не выключана, што менавіта з гэтым звязана традыцыя будысцкіх манахаў збіраць свае доўгія валасы на макушцы... Калі валасы сапраўды з'яўляюцца антэнамі, якія забяспечваюць наш арганізм касмічнай энергіяй, то забарона зусім зразумелая: жанчына, як прадаўжальніца роду, павінна забяспечыць будучых дзяцей як мага большым запасам жыццёвых сіл. А адкуль яны бяруцца? Сёння дакладна ўстаноўлена, што не толькі з ежы, але і з Космасу. Тым жа можна растлумачыць і народную традыцыю не стрыгчы валасы ў дзяцей да года (дзе-нідзе да трох гадоў).

Але любы прыёмнік можа быць і перадатчыкам. Не з'яўляюцца выключэннем і валасы. Што за інфармацыя можа выпраменьвацца імі? Перш за ўсё звесткі аб стане нашага арганізма. Выказваюцца меркаванні, што валасы на розных частках цела маюць рознае прызначэнне. Напрыклад, валасы на галаве ўдзельнічаюць у прыёме і перадачы эмацыянальнай і ментальнай інфармацыі, а таксама ў падсілкоўванні «чыстай» касмічнай энергіяй. А валасы, якія выраслі да моманту палавой сталасці на іншых участках цела, «сігналяць» сваё: арганізм гатовы да прадаўжэння роду. Менавіта іх выпраменьванні ў асноўным і прыцягваюць процілеглы пол. Такое адбываецца і ў жывёльным свеце, калі прыходзіць час завесці патомства. Самкі і самцы, кіруючыся не толькі пахамі, але і яшчэ нейкімі сігналамі, знаходзяць адзін аднаго за некалькі кіламетраў...

### Дасье на расчосцы

Валасы не проста антэны, але і магутныя накапляльнікі энергіі. Усходнія манахі, якія ўмеюць кіраваць сваёй біяэнергіяй, здольныя так канцэнтраваць яе ў сваіх доўгіх косах, што тыя набываюць уласцівасці жалезнага лома. Умела карыстаючыся такой грознай зброяй, майстар баявога майстэрства можа сур'ёзна пакалечыць свайго праціўніка.

Але калі валасы здольныя накопліваць энергію — значыць у іх павінна захоўвацца і інфармацыя аб іх гаспадару! Вучоныя навучыліся атрымліваць звесткі з такіх валасоў. Крыміналісты ўсяго па аднаму валаску, узятаму з расчоскі, могуць вызначыць, ці меў яго гаспадар справу з наркотыкамі, ужываў іх сам ці толькі прадаваў.

Аналізу паддаецца не толькі хімічны састаў валасоў, але і іх... кардыяграма. Такую методыку, у прыватнасці, вынайшаў аўтар многіх арыгінальных работ па слабаэнергетычных узаемадзеяннях, доктар тэхнічных навук Г. Сяргееў. Даведаўшыся, што ў Гістарычным архіве Санкт-Пецярбурга захоўваюцца валасы Людовіка XVI, састрыжаныя ў яго перад пакараннем на гільяціне, вучоны даследаваў іх малекулярную структуру. Разлік быў на тое, што магутнае кароткачасовае выпраменьванне, якое звычайна суправаджае гібель чалавека, пакінула след у яго валасах. На-дзеі поўнасцю апраўдаліся. Удалося нават устанавіць частату перадсмяротнага пульса манарха — трыццаць удараў у хвіліну.

Так, нашы валасы — сапраўднае дасье. Спецыяліст вызначыць па іх многае: спадчынныя асаблівасці, звычайнае меню, любімыя стравы і нават звычкі. Але валасы запамінаюць і негатыўную інфармацыю, якая выпраменьваецца арганізмам у час хваробы. А таму пасля цяжкай хваробы або стрэсу вельмі карысна пастрыгчыся. З астрыжанымі кончыкамі валасоў (а менавіта ў іх самая вялікая канцэнтрацыя інфармацыі) чалавек пазбаўляецца ад працяглага ўздзеяння запомненай патагеннай энергіі.

Магчыма, з гэтым звязаны і скрыты сэнс «пастрыжэння» ў манахі або салдаты. Галенне галавы ў гэтых выпадках — працэдура не толькі гігіенічная, але і энергетычная. Такому чалавеку псіхічна лягчэй пачаць новае жыццё, свецкія «хвасты» не так моцна цягнуць яго ў мінулае...

### Локан у медальёне

Здаўна лічылася, што астрыжаныя валасы чалавека захоўваюць таямнічую сувязь са сваім гаспадаром нават на адлегласці. Локан каханага клалі ў медальён і насілі побач з сэрцам. І адчувалі, што нябачны кантакт сапраўды існуе.

У розных краінах здаўна існаваў звычай хаваць ці паліць зрэзаныя валасы і пазногці з-за боязі, што яны трапяць у рукі ведзьмакоў. Падстаў для неспакою больш чым дастаткова: валасы ўсюды выкарыстоўваюць у чорнай магіі. Абарыгены Аўстраліі, напрыклад, практыкуюць такі рытуал звышнатуральнага забойства, як «указванне косцю». Узяўшы косць ад пэўнай жывёлы, абкруціўшы яе чалавечымі валасамі і зарадзіўшы негатыўнай энергіяй, вядзьмар робіць з яе рытуальную «косць-забойцу». Першыя белыя пасяленцы, якія з'явіліся ў Аўстраліі, былі здзіўлены той хуткасцю, з якой смерць знаходзіла прыгаворанага, калі на яго было ўказана такой косцю...

Трэба сказаць, што воск валодае вялікай энергаёмістасцю і пры судакрананні з кім-небудзь прадметам здольны ўспрыняць яго спецыфічную энергетыку. У сувязі з гэтым вельмі шматзначным выглядае абрад, які праводзіцца ў царкве ў час хрышчэння: у дзіцяці, як гэта заведзена яшчэ апосталам Паўлам, свяшчэннік адразае пасмачку валасоў і ўкачвае яе... у воск. Што робіцца з гэтым валасамі ў далейшым — тайна. На тое яна і таямніца — хрышчэнне...

### Паліць? Выкідваць? Паліць?

З валасамі ў розных народаў звязана нямала прымет і павер'яў. Напрыклад, на Русі лічылася, што калі стрыжаныя пры хрышчэнні валасы дзіцяці, укачаныя ў воск, у вадзе патонуць, то дзіцяці суджана хуткая смерць; калі не — будзе жыць доўга. А ў Англіі з той жа мэтай кідалі валасы ў агонь і глядзелі, як яны будуць гарэць. Успыхнуць ярка — іх гаспадар будзе жыць доўга; будуць тлець — няхай рыхтуецца да смерці.

Існуе такая прымета: каб хутчэй і гусцей раслі валасы, стрыгчы іх трэба толькі пры растучым Месяцы. Глупства? Не, тут нічога містычнага няма. Так ужо ўладкаваны наш арганізм: пры пашкоджанні тканак ён мабілізуе ўсе сілы, каб хутчэй папоўніць страту. І асабліва інтэнсіўна гэта адбываецца пры растучым Месяцы...

Або такі стары звычай: амаль паўсюдна не рэкамендавалася бяздумна выкідваць астрыжаныя валасы або тыя, што засталіся на расчосцы. Асабліва баяліся, што іх могуць зацягнуць у свае гнёзды птушкі: тады чакай галаўнога болю, высыпкі на галаве, а то і невылечных хвароб. Ці ёсць тут здаровае зерне? Не выключана. Зародкі, якія актыўна развіваюцца ў яйках, «цягнуць» энергію не толькі ад маці, якая выседжвае, але і з усяго, што іх акружае. І зусім магчыма, што праз чалавечыя валасы, якія аказаліся ў гняздзе, — па тонкаэнергетычных каналах — з іх былога гаспадара. Адсюль і яго незразумелая медыкам хвароба... А як будзе, калі выкінутыя ў смецце валасы акажуцца на памыйніцы сярод гнілых адходаў? Якую інфармацыю мы будзем атрымліваць пры гэтым? Ёсць і яшчэ адна небяспека: калі астрыжаныя валасы акажуцца побач з працуючымі механізмамі, іх гаспадар можа стаць беспрычынна неспакойным і раздражняльным...

Дык што ж рабіць з астрыжанымі валасамі?

Адны раяць іх спальваць, іншыя катэгарычна супраць гэтага — маўляў, будуць выпадаць валасы на галаве. Выкідваць валасы ў ваду, напрыклад, у туалет, — бясспрэчна, эфектыўны спосаб разарваць з імі сувязь.

У многіх краінах астрыжаныя валасы і пазногці не проста не выкідвалі куды папала, але нават спецыяльна захоўвалі. Не вельмі ўяўляючы сапраўдныя вытокі гэтага звычаю, часцей за ўсё тлумачылі, што «ў дзень Страшнага суда прыйдзецца за кожны валасок адказваць». Захоўвалі валасы па-рознаму: хто пад страхой дома, хто ў шчылінах царквы або ў скальных адтулінах, хто ў дуплах дрэў, а хтосьці закопваў іх у зямлю. І не проста ў зямлю, а стараліся закапаць пад якое-небудзь моцнае і здаровае дрэва, напрыклад, пад магутны дуб або векавую сасну. З пазіцый сённяшняй біяэнергетыкі гэта таксама зусім зразумела: многія дрэвы з'яўляюцца для чалавека біядонарамі, і іх энергія здольная падсілкоўваць яго нават праз валасы.

**Віталь ПРАЎДЗІЎЦАЎ.**
*«Работница».*

# ШАШКІ

### *ЭЦЮДЫ МІКАЛАЯ ГРУШЭЎСКАГА*

Чытачам «Звязды» — аматарам шашак са стажам імя Мікалая Грушэўскага добра вядома. Калісьці ён сам вёў у «Звяздзе» шашачны аддзел. А потым неяк адышоў у бок ад гэтай цікавай справы.

Цяпер ён даслаў у рэдакцыю ажно тры свае эцюды. Мы з задавальненнем друкуем іх і просім рашальнікаў не проста дасылаць адказы, але і дадаць, калі ёсць такое жаданне, сваю ацэнку — станоўчую, адмоўную, аналітычную — гэтым шашачным творам.

Такім чынам, тры эцюды Мікалая Грушэўскага!...

**Эцюд № 1**



**Белыя**: дамка b4, простая d6 (2). **Чорныя**: дамкі b2, d4, простая d8 (3). **Нічыя**.

**Эцюд № 2**



**Белыя**: дамка a7, простая d6 (2). **Чорныя**: дамкі d8, g1, простая a5 (3). **Нічыя**.

**Эцюд № 3**



**Белыя**: дамкі b8, h4, простая g5 (3). **Чорныя**: дамка d8, простыя a5, b6, e3 (4). **Выйгрыш**.

Адказы на заданні дасылайце на адрас рэдакцыі «Звязды»: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.

*ЗВЕРЫМ РАШЭННІ?*

Аўтарскае рашэнне канцоўкі, якую даслалі Віталь і Валер Паеўе і Валер Амбражэвіч з г. п. Іўе Гродзенскай вобласці, такое:

1. bc7! d:b6 2. fg7! h8:d4 3. gf6 g:g7 4. h:c5 b:d4 5. hg3 h:f2 6. g:c5x.

На гэты раз ацэнку твору даў толькі мінчанін Леанід Ахрэм: «Канцоўка неблагая, — піша ён, — для пачаткоўцаў. Але мае і недахопы — галоўны, першы варыянт змазаны. Асаблівасць канцоўкі: пры запісе рашэння ў варыянтах неабходна ўказаць, якая канкрэтна чорная б'е. Гэты выпадак рэдка сустракаецца ў канцоўках і задачах».

Ён жа разгледзеў і другі варыянт, які не прывялі самі аўтары: 2. ... h4:d4 3. gf8 g:e5 4. f:a5 і белыя выйграюць тэхнічна.

Шкада, але ўсе астатнія чытачы, якія даслалі адказы, абмежаваліся толькі тэхнічным запісам рашэння, ніяк не каменціруючы яго.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 85.556. Індэкс 63850.
Зак. № 3537.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12